


“Каб усе былі адно”
(Ян 17, 21)

# Царква

№ 1 (64), 2010
15 сакавіка

БЕЛАРУСКАЯ ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЯ ГАЗЕТА






• *Радасьць і шчасьлівыя ўсьмешкі дзяцей – галоўнае, што прыносіць праца хрысьціянскіх валанцёраў у дзіцячых дамах і прытулках. Фота Ю. Седзянеўскага.*





*“Свабода ня можа быць абсалютнай, таму што чалавек зьяўляецца ня Богам, а вобразам Бога, Яго стварэньнем. Чалавек ня можа ісьці дарогай сваіх жаданьняў – яго шлях павінен базавацца на тым, ці зьяўляецца такі лад рэчаў пажаданым для Стваральніка.”*

*Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI.*
*Аўдыенцыя для прадстаўнікоў дыпламатычнага корпусу, 11.01.2010.*

## У нумары:


**ВЯЛІКІ ПОСТ**
*Пасланьне Апостальскага Візітатара БГКЦ*
............................................. **с. 2**

**СЬВЕДЧАНЬНІ ПРА ПАДПОЛЬНАЕ ЖЫЦЬЦЁ ГКЦ**
*Айцец К.Жыліс узгадвае пра біскупа ГКЦ П.Васылыка*
............................................. **с. 5**

**ІДЭЯ ЦАРКОЎНАЙ УНІІ Ў БЕЛАРУСІ Ў XV - ПАЧАТКУ XVI ст.**
*Рэха Флярэнцкай уніі ў ВКЛ*
....................................... **с. 12-17**

**ТОЕСНАСЬЦЬ І ПАСЛАНЬНЕ ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЫ**
*Д-р Г. Авакумаў: “Канфесія, якая разбурае канфесійны сьвет”*
....................................... **с. 16-19**

**РЫГОРУ БАРАДУЛІНУ – 75!**
*Вершы паэта з нагоды юбілею*
............................................. **с. 20**

# Пастырскае Слова
## АПОСТАЛЬСКАГА ВІЗІТАТАРА ДЛЯ ГРЭКА-КАТОЛІКАЎ БЕЛАРУСІ
# на пачатак Вялікага посту 2010 году

Пачэсныя Айцы сьвятаслужыцелі!
Дарагія Манахі, Манахіні
і Браты Семінарысты!
Любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры!
Паважаныя Сябры!

*Зазьзяла ласка Твая, Госпадзе,*
*зазьзяла і прасьвятленьне душ нашых.*
*Вось час падыходны, вось час пакаяньня.*
*Дык адкладзем учынкі цемры*
*і апранемся ў сьветлую вопратку,*
*каб, пераплыўшы вялікае мора посту,*
*даплыць пасьпяхова да трохдзённага*
*ўваскрасеньня Госпада нашага*
*Ісуса Хрыста, Збавіцеля душаў нашых.*

*Песьня з вячэрні Нядзелі сырнай, першай вячэрні Вялікага посту.*

1. Вялікапоснае вандраваньне, якое прапануюць нам сьпевы Трыёдзі, прадугледжвае неабходнасьць падрыхтоўкі. На першай вячэрні Вялікага посту ў Сырную нядзелю ўвечары чуем у сьпевах вершапесьні пра тое, што, каб пасьпяхова пераплысьці вялікае мора посту, трэба адкласьці ўчынкі цемры і апрануцца ў сьветлую вопратку. Гэтая падрыхтоўка патрабуе ад нас ня толькі высілку нашай волі ў змаганьні з сваімі дрэннымі схільнасьцямі і грахамі, але і высілку нашага розуму, каб спасьцігнуць, дзе ёсьць воля Божая для нас і вызначыць тыя ўчынкі цемры, якія нам трэба адкінуць.

У гэтых высілках мы, як верныя дзеці Царквы, зьвяртаемся да Сьвятога Пісьма і царкоўнага Пераданьня і карыстаемся аўтэнтычнай царкоўнай інтэрпрэтацыяй іх – Катэхізісам.

Усіх сьвятароў нашае Царквы заклікаю ў Вялікім посьце праводзіць катэхізацыі ў сваіх парафіях, спаўняючы заклік Папы Бенядыкта XVI, выказаны ў ягоным Пасланьні да каталіцкіх ярархаў Беларусі падчас візіту ad limina, “каб належная катэхетычная адукацыя паказвала шлях веры на ўсіх этапах жыцьця”.

Вернікаў заклікаю да руплівага і чыннага ўдзелу ў гэтых катэхізацыях, каб паводле словаў Сьвятога Айца “пасланьне Хрыста дасягала да кожнага асяродку дaручанага” сьвятарам статку.

2. У некаторых Цэрквах візантыйскай традыцыі існуе звычай асаблівага шанаваньня Багародзіцы праз увесь Вялікі пост сьпяваньнем у Яе гонар часткі Акафісту ў кожную пятніцу вечарам. Прымем гэтую традыцыю як заахвочваньне і для нашай Царквы, бо ў гэтым годзе адзначаем 280-ыя ўгодкі каранаваньня папскімі каронамі цудадзейнай Жыровіцкай іконы Багародзіцы.

У час нашага посту заклікаю да малітоўнага асэнсаваньня вялікіх ласкаў Багародзіцы, якія Яна шчодра выпрошвае ў свайго Сына для нашага народу і нашай Царквы. Сьведчаньнем гэтага ёсьць падзеі 280-гадовай даўніны, калі падчас урачыстасьцяў з нагоды каранаваньня Жыровіцкай іконы паспавядалася і прычасьцілася больш за 140 тысячаў нашых продкаў. Пра гэта сьведчаць годныя веры дакументы тае пары.

Падзеі такога шырокага навяртаньня да Бога нашых продкаў мусяць быць выклікам для нас на гэты час Вялікага посту ў нашай малітве за наш народ і захаваньне ды пашырэньне ў ім хрысьціянскіх каштоўнасьцяў.

3. Час Вялікага посту ў нашай літургічнай традыцыі гэта і час малітвы за нашых памерлых продкаў, якія былі сьведкамі жывой веры, вернасьці Хрысту і еднасьці Царквы. Асаблівым чынам падчас малітваў за памёрлых у суботы Вялікага посту ўзгадаем усіх тых, што служылі Хрысту ў Жыровіцкай абіцелі манахаў-базыльянаў ды ў іншых манастырах на нашай зямлі: быценскім, менскім, барунскім, браслаўскім і іншых. Такая малітва няхай дапаможа нам увайсьці ў глыбіню праўды пра “сулучнасьць сьвятых”, якой ёсьць Паўсюдная Хрыстовая Царква ў яе вымярэньні як гістарычным, так і геаграфічным. Тады зможам лепш зразумець каштоўнасьць нашай духовай спадчыны, якую подзьвігам нашага хрысьціянскага жыцьця маем працягваць сёньня ў нашай Бацькаўшчыне.

Усім сьвятарам, манахам, манахіням, семінарыстам, усім вернікам нашае Царквы ды ўсім нашым сябрам жадаем плённага духова Вялікага посту і даручаем вас малітвам Багародзіцы.

Блаславеньне Гасподняе хай будзе на вас, ласкаю Яго і чалавекалюбствам!

*Менск, нядзеля перад Вялікім постам 2010 г.*

**+ Архімандрыт СЯРГЕЙ (Гаек)**
**Апостальскі Візітатар**
**для грэка-каталікаў Беларусі**

# Сьвяткаваньне Пасхі – разам

***2010 год – адзін з тых, калі праваслаўныя і каталікі розных абрадаў будуць сьвяткаваць Вялікдзень разам. Сёлета гэтая ўрачыстасьць прыпадае на 4 красавіка. У гэты дзень гучным звонам з усіх цэркваў і касьцёлаў сьвету будзе абвешчана вялікая радасьць – Хрыстос уваскрос!***

Часта паўстае пытаньне, чаму каталікі і праваслаўныя ў нашай краіне звычайна адзначаюць Пасху з вялікай розьніцай дзён і толькі раз на нейкі час дата ўрачыстасьці супадае.

Справа ў тым, што Вялікдзень – гэта рухомае сьвята. Яго дата неаднойчы ў гісторыі была тэмай спрэчак. У нашыя часы ў заходніх Цэрквах прынята, што Вялікдзень адзначаецца ў нядзелю пасьля першай вясеньняй поўні месяца. Дата ўрачыстасьці Ўваскрасеньня Хрыста залежыць таксама ад даты Ўкрыжаваньня, якое, як пішуць евангелісты, адбылося на тры дні раней – непасрэдна перад габрэйскай Пасхай, якая адзначалася ў чатырнаццаты дзень месяца Нісан. Аднак праблема заключаецца ў тым, што дата Ўкрыжаваньня ў Евангельлі паводле Яна і ў іншых трох адрозьніваецца. Таму ўсходнія Цэрквы выказваліся за дату чатырнаццаты Нісан, а заходнія прывязвалі адзначэньне ўрачыстасьці Ўваскрасеньня да пятнаццатага дня гэтага месяца.

Пераломам у вызначэньні дня Пасхі зьдзейсьніў манах на імя Дыянізі. Ён стварыў хрысьціянскі каляндар, пачынаючы адлік ад Нараджэньня Хрыста. Каб атрымаць дату Вялікадня, сярэднявечны хранолаг шукаў так званую залатую лічбу, зьвяраў па табліцы дату поўні месяца, потым шукаў першую поўню пасьля 21 сакавіка і затым ў табліцы так званых літараў нядзелі адшукваў дату Вялікадня.

Пасьля рэформы календара шляхі Ўсходу і Захаду, што да адзначэньня Пасхі, разышліся. Розьніца ў часе сьвяткаваньня Вялікадня паміж Цэрквамі, якія карыстаюцца грыгарыянскім календаром, і тымі Ўсходнімі Цэрквамі (праваслаўнымі і грэкакаталіцкімі), якія жывуць паводле юльянскага календара, можа складаць нават пяць тыдняў. Але можа і супадаць, як адбываецца гэта сёлета.

Зьяўляюцца тэндэнцыі, каб увесьці сталую дату Вялікадня. Варта адзначыць, што Канстытуцыя пра Сьвятую Літургію Другога Ватыканскага Сабору цалкам дапускае такую магчымасьць.

*Паводле Catholic.by*

*«Навяртаньне да Хрыста і вера ў Евангельле азначаюць [...] выйсьці з ілюзіі самадастатковасьці для таго, каб адкрыць і прыняць сваю патрэбу – патрэбу ў бліжніх і Богу, патрэбу Яго прабачэньня і Яго сяброўства».*

*З Пасланьня Сьвятога Айца Бенядыкта XVI на Вялікі пост 2010 году.*

# Бенядыкт XVI: дар любові надае вартасьць усім іншым дарам

***У разважаньні перад малітвай «Анёл Гасподні» 31 студзеня 2010 году на плошчы сьвятога Пятра ў Ватыкане Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI нагадаў вернікам пра месца і значэньне любові ў жыцьці Царквы і кожнага хрысьціяніна. Як адзначыў Папа, любоў зьяўляецца вялікім дарам, які надае вартасьць усім іншым дарам, дадаўшы, што сваю першую энцыкліку прысьвяціў менавіта гэтай тэме.***

Закранаючы тэму «гімна пра любоў» апостала Паўла, Пантыфік заўважыў, што апостал, сьцьвярджаючы, што разнастайныя дары Духа Сьвятога спрыяюць дабру ўсёй Царквы, указвае вернікам у сваім пасланьні шляхі дасканаласьці. Паводле словаў Сьвятога Айца, сьвяты Павел падкрэслівае, што гэтыя дары не засноўваюцца на незвычайных рэчах, такіх, як валоданьне многімі мовамі, веданьне ўсіх таямніцаў або зьдзяйсьненьне неверагодных учынкаў. Сутнасьцю гэтай дасканаласьці зьяўляецца сапраўдная любоў, якую Бог аб'явіў у Ісусе Хрысьце.

Любоў, як адзначыў Папа, зьяўляецца дарам найвышэйшым, які надае вартасьць усім іншым дарам, і разам з тым яна ня дбае пра сябе і клапоціцца пра агульнае дабро. Той, хто сапраўды любіць, падкрэсьліў Бенядыкт XVI, не шукае свайго, ня памятае зла, усё зносіць і ўсяму верыць. Сьвяты Айцец дадаў, што пры сустрэчы твар у твар з Госпадам усе іншыя дары зьнікнуць – застанецца вечнай толькі любоў, таму што Бог зьяўляецца любоўю, а людзі будуць падобныя да Госпада ў дасканалай еднасьці з Ім.

Папа адзначыў таксама рысы хрысьціянскай любові, якая зьяўляецца сінтэзам усяго жыцьця: таго, у што верым, і таго, што чынім. Любоў, паводле словаў Сьвятога Айца, – гэта сутнасьць самога Бога, сэнс стварэньня і гісторыі, сьвятло, якое надае прыгажосьць жыцьцю кожнага чалавека. Калі мы думаем пра сьвятых, дадаў Папа, то пазнаём разнастайнасьць духоўных дароў, якія яны мелі. Жыцьцё кожнага з іх – гімн пра любоў, жывая песьня аб любові Госпада.

*Паводле Catholic.by*

# Быць сьведкамі Ўваскрослага Хрыста

***Тыдзень малітваў за еднасьць хрысьціянаў, які ў Каталіцкай Царкве адбываецца 18-25 студзеня, сёлета праходзіў пад дэвізам: "Вы зьяўляецеся сьведкамі Ўваскрослага Хрыста" (пар. Лк 24, 48). Экуменічныя малітоўныя сустрэчы, у якіх бралі ўдзел і грэка-католікі, адбыліся ў Менску і Горадні.***

У экуменічнай сустрэчы 23 студзеня 2010 году ў менскай рыма-каталіцкай архікатэдры ўзялі ўдзел рыма-каталіцкі мітрапаліт Менска-Магілёўскі архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, протаярэй Беларускага Экзархату РПЦ айцец Аляксандар Шымбалёў, кіраўнік справамі Саюзу евангельскіх хрысьціянаў баптыстаў пастар Алег Балуценка, а таксама старшыня Праўленьня Біблійнага таварыства Герман Родаў. Прадстаўніком БГКЦ быў протапрасьвітар з Менску а. Яўген Усошын.

Пасьля сьвятой Імшы, якую ўзначальваў дапаможны біскуп Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі Ўладыка Антон Дзям'янка, адбылася супольная экуменічная малітва, затым кожны з удзельнікаў зьвярнуўся да вернікаў з прамовай. Па даручэньні Апостальскага Візітатара БГКЦ Архімандрыта Сяргея Гаека да ўдзельнікаў экуменічнай сустрэчы зьвярнуўся а. Яўген Усошын. У сваёй прамове ён заахвоціў вернікаў рэалізоўваць Хрыстовы заклік "Каб усе былі адно" праз вернасьць Божаму Слову.

Напрыканцы экуменічнай сустрэчы ўсе прысутныя вызналі веру ў Адзінага Бога, а таксама перадалі адзін аднаму знак супакою, які кожны з нас з любоўю павінен несьці ў свае сем'і і месцы працы. Затым прадстаўнікі канфесіяў запалілі сымбалічны агмень веры.

24 студзеня на падобную экуменічную сустрэчу запрасіў біскуп Гарадзенскі Аляксандар Кашкевіч. Яна адбылася ў рыма-каталіцкай катэдры сьвятога Францішка Ксаверыя ў Горадні. Акрамя рыма-каталіцкіх сьвятароў, семінарыстаў і шматлікіх вернікаў у малітоўнай сустрэчы бралі ўдзел прадстаўнікі Грэка-Каталіцкай, Праваслаўнай і Лютэранскай Цэркваў.

Напачатку было прывітаньне ад прадстаўнікоў канфесіяў і прасьпяваны гімн да Духа Сьвятога. Затым распачалася літургія Божага слова, у якой прадстаўнікі хрысьціянскіх супольнасьцяў зачыталі ўрывак з Евангельля, пасьля чаго выступілі з прамовамі. Ад грэка-католікаў з прамовай да прысутных зьвярнуўся гарадзенскі душпастыр айцец Андрэй Крот. Падчас сумеснай малітвы хрысьціяне прасілі аб дарах Духа Сьвятога для ўсіх хрысьціянскіх супольнасьцяў і аб няспынным будаваньні еднасьці, а напрыканцы сустрэчы, памаліўшыся Малітвай Господняй «Ойча наш», запалілі сымбалічнае сьвятла паяднаньня.

# Сербскі патрыярх
## гатовы сустрэцца з Папам

***Апостальская Сталіца з задавальненьнем і ўдзячнасьцю ўспрыняла заяву новага Першаярарха Сербскай Праваслаўнай Царквы Патрыярха Ірынэя, які адзначыў, што настаў час для яго сустрэчы са Сьвятым Айцом Бенядыктам XVI.***

Старшыня Прэс-службы Ватыкану а. Федэрыка Ламбардзі, SI заўважыў, што словы зьверхніка Сербскай Праваслаўнай Царквы пра гатоўнасьць распачаць дыялог з Папам сьведчаць пра «адкрытую і экуменічную пазіцыю» новага Патрыярха, якую Апостальская Сталіца ўспрымае з глыбокай удзячнасьцю. Паводле словаў прадстаўніка ватыканскага ведамства, гэтае сьцьверджаньне зьяўляецца знакам, што дыялог, распачаты яшчэ пры ўдзеле папярэдняга Патрыярха Сербскага Паўла, будзе пасьпяхова працягнуты. Як дадаў а.Ламбардзі, можна спадзявацца, што гэты дыялог «выйдзе за папярэднія рамкі».

Кіраўнік Прэс-службы Апостальскай Сталіцы таксама зьвярнуўся да тэмы магчымасьці сустрэчы Патрыярха з Папам у Сербіі ў 2013 годзе з нагоды сьвяткаваньня 1700-годдзя падпісаньня міланскага эдыкту, які даваў хрысьціянам Рымскай імперыі дазвол на свабоднае вызнаньне сваёй рэлігіі. Як паведаміў а. Ламбардзі, магчымасьць такой сустрэчы ўжо абмяркоўвалася падчас аўдыенцыі, удзеленай Сьвятым Айцом Прэзідэнту Сербіі Барысу Тадзічу ў лістападзе 2009 году, аднак дакладна яна яшчэ не была запланавана.

*Паводле Catholic.by*



*• Горадня, 24.01.2010. Айцец А.Крот запальвае сымбалічнае сьвятло паяднаньня. (Фота з wsd.grodnensis.by)*

дыякан Пётр Рудкоўскі, OP

# Хто ў Беларусі павінен выступіць у абарону беларускай мовы?

***«У мове і праз мову выражаецца супольная памяць, традыцыя і культура народу. Мова яднае народ, робіць яго маральна моцным і трывалым, нягледзячы на зьменлівыя каляіны лёсу. Мова, зьяўляючыся сінтэзам нацыянальных каштоўнасьцяў, утварае фундамент тоеснасьці нацыі», – гэта ўрывак з пастырскага пасланьня Епіскапату Польшчы адносна пытаньня культуры польскай мовы, якое было зачытана альбо вывешана ва ўсіх каталіцкіх сьвятынях Польшчы 17 студзеня 2010 году.***

Чаму біскупы Польшчы вырашылі на такім высокім узроўні заняцца тэмай, якая, здавалася б, не зьвязана непасрэдна з рэлігіяй і евангелізацыйнай місіяй Царквы? Хоць гэта непасрэдна і не гаворыцца ў пасланьні, але няцяжка здагадацца, што біскупы Польшчы зыходзяць тут з інтэгральнага разуменьня чалавечай істоты. Філасофская антрапалогія настойліва падкрэсьлівае, што чалавек ёсьць істота разумная (homo sapiens), грамадзкая (homo socialis) і рэлігійная (homo religiosus) адначасова. Немагчыма паспраўднаму служыць чалавеку ў яго рэлігійным вымярэньні, ігнаруючы, напрыклад, яго грамадзка-культурнае вымярэньне. Таму, хоць моўная культура не належыць да рэлігійнага вымярэньня чалавечай экзістэнцыі, аднак жа клопат высокіх прадстаўнікоў Царквы апраўданы тым, што гэтая культура мае вялікае значэньне для інтэгральнага разьвіцьця чалавека.

Усё гэта міжволі прымушае падумаць пра стан беларускай мовы ў нашай краіне ў цэлым і ў Каталіцкай Царкве ў прыватнасьці. Наша мова прайшла і ўсьцяж праходзіць непараўнальна большыя выпрабаваньні, чым мова суседніх народаў. Пасьля заняпаду старабеларускай культуры ў XVII–XVIII стст. мы, можна сказаць, ня мелі ані сіл, ані гістарычных магчымасьцяў, каб прыўзьняцца і адрадзіцца. Мы ня мелі міжваеннага перыяду незалежнасьці, як палякі альбо літоўцы, а ў дарэвалюцыйны час ні адзін гектар Беларусі ня меў таго камфорту, які мелі тыя ўкраінцы, якія аказаліся пад аўстрыйскай уладай. У той час як у Літве ці Польшчы рыма-каталіцкае духавенства, на Ўкраіне – грэка-каталіцкае, можна сказаць, было авангардам моўна-культурнага адраджэньня, у Беларусі толькі адзінкі адважваліся стаць на такі шлях.

Сёньня адважваюцца стаць на гэты шлях не адзінкі, а, скажам, дзясяткі. Не бяз радасьці і ўдзячнасьці трэба адзначыць, што ўнутры Рыма-Каталіцкай Царквы беларуская мова гучыць часьцей, чым у іншых сферах публічнага жыцьця. У нешматлікай Грэка-Каталіцкай Царкве родная мова замацавана шматвекавой традыцыяй і займае выключнае месца.

Аднак ці дастаткова гэтага? Ці беларуская мова ў Беларусі мае менш праблемаў, чым польская мова ў Польшчы? Ці не павінна яна стаць прадметам больш пільнай увагі з боку пастыраў?

Моўнае пытаньне ў Царкве ў Беларусі мае, вядома ж, свой кантэкст і сваю сьпецыфіку. Ведаем, што многія каталікі схіляюцца да польскай мовы ў касьцёле – хтосьці таму, што сьвядома атаясамлівае сябе з польскай нацыяй, а хтосьці ў сілу традыцыі. Несумненна, польскамоўная каталіцкая культура мае права існаваць і разьвівацца ў Беларусі, а клопат пра беларускую мову ні ў якім разе не павінен быць скіраваны на выкараненьне ці несправядлівае выцясьненне польскай мовы.

Тут, аднак, неабходна тое, што называецца «прытомнасьцю сэрца». Беларуская мова канае на сваёй уласнай тэрыторыі. Пытаньні, хто вінаваты ў гэтым, трэба адсунуць у бок. Трэба адмовіцца таксама ад недарэчных спрэчак наконт таго, якое ведамства і калі павінна займацца гэтай праблемай. Бо адказ тут відавочны: кожны чалавек добрай волі павінен гэтым займацца. А таксама кожная ўстанова, якая называецца «культурнай», «рэлігійнай» альбо «хрысьціянскай». Кожны, хто імкнецца служыць інтэгральнаму чалавеку, павінен адчуваць сваю адказнасьць за беларускую мову.

*Catholic.by*

*«Душпастырства ў лічбавым сьвеце павінна пераканаць людзей нашых часоў у тым, што Бог блізкі».*

*З Пасланьня Сьвятога Айца Бенядыкта XVI на Сусьветны дзень сродкаў масавай інфармацыі.*

# Асновы праваслаўнай культуры – у школе?

***Міністэрства адукацыі Беларусі і Беларускі Экзархат РПЦ падрыхтавалі праграму факультатыўнага курсу «Асновы праваслаўнай культуры. Сьвятыні беларускага народу», – пра гэта паведаміў міністар адукацыі Аляксандар Радзькоў.***

Распрацаваная праграма заняткаў факультатыўнага тыпу арыентавана для вывучэньня ў 1-11 класах сярэдняй школы. У бліжэйшы час яна будзе накіравана ў Нацыянальны інстытут адукацыі.

Як паведамляе БЕЛТА, у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка ўжо распрацаваны курс лекцыяў для студэнтаў і выкладчыкаў ВНУ «Методыка выкладаньня рэлігіязнаўства ў сярэдняй школе». Дадзены курс прайшоў неабходнае рэцэнзаваньне ў Рэспубліканскім інстытуце вышэйшай школы і Інстытуце імя сьвятых Мятода і Кірылы БДУ.

Увядзеньне гэтых курсаў дапускае Праграма супрацоўніцтва Міністэрства адукацыі Беларусі і Беларускай Праваслаўнай Царквы на 2011-2015 гг.

У 2009 г. у 30 школах Менску і Менскай вобласьці ўжо адбывалася выкладаньне падобных факультатыўных курсаў: «Асновы праваслаўнай культуры», «Духоўныя асновы культуры», «Культура і рэлігія».

*Паводле Catholic.by*

# Паміж навукай і верай не існуе супярэчнасьцяў

***«Паміж навукай і верай няма супярэчнасьцяў», – адзначыў архібіскуп Джанфранка Равазі. Старшыня Папскай Рады па культуры пракаментаваў такім чынам выказваньне вядомага італьянскага анколага, палітыка і міністра здароўя ў 2000-2001 гг. прафесара Ўмбэрта Веранэзі адносна пытаньня існаваньня супярэчнасьцяў паміж навукай і верай.***

Умбэрта Веранэзі лічыць, што «навука і вера ня могуць існаваць у пары, таму што вера засноўваецца на сьляпой веры ў штосьці, што выявілася ў мінулым, у свайго роду легендзе, без магчымасьці яе крытыкі, бяз права абвяржэньня таямніцаў і догмаў, якія неабходна прыняць».

У адказ на гэта архібіскуп Равазі адзначыў, што ў той час, калі навука ставіць перад сабой пытаньне «як», веру цікавіць пытаньне «навошта». Пры гэтым ярарх акрэсьліў меркаваньне навукоўцы як «састарэлае», паколькі сёньня тэалогія можа дапамагчы навуцы ў разуменьні вымярэньня, якога навука ня можа і не павінна дасьледаваць.

Рэлігія дае адказы, якія «знаходзяцца ў іншай плоскасьці, так, як паэзія і любоў», – падкрэсьліў ярарх.

*Паводле Catholic.by*

*«Адмаўленьне ад Бога ня толькі цягне за сабой прыніжэньне годнасьці чалавека, але і зьнішчае справы стварэньня».*

*Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI. Аўдыенцыя для прадстаўнікоў дыпламатычнага корпусу, 11.01.2010.*

# Каштоўныя сьведчаньні пра жыцьцё грэка-католікаў у падпольлі

***20 гадоў таму, у канцы 1989-га – пачатку 1990 гг. украінскія грэка-католікі дамагліся права на легалізацыю сваіх царкоўных структураў. За кароткі час Грэка-Каталіцкая Царква, якая пасьля 1946 году была пад забаронаю, аднавіла свае структуры, вярнула храмы і вернікаў. І гэты бурны працэс адраджэньня быў зусім невыпадковы, а натуральны, бо, будучы перасьледаванай і жывучы ў падпольлі, Царква ўсё ж здолела захаваць свае структуры, духоўныя семінарыі і манаства, сваю ярархію і сьвятароў, якія выхоўвалі адданых вернікаў.***

***Украінскія гісторыкі сабралі шмат цікавых дакументаў і ўспамінаў пра гэтыя цяжкія і трагічныя старонкі жыцьця Царквы ў падпольлі. Але сёньня ведаем пра такія факты ня толькі ў Заходняй Украіне. Ведаем, што і ў Беларусі нешматлікія грэка-католікі, якія пасьля вайны зусім засталіся без пастыраў, захоўвалі сваю веру, маліліся, прымалі падпольных украінскіх грэка-каталіцкіх сьвятароў, хрысьцілі дзяцей і выхоўвалі іх у веры.***

Сёньня добра вядома пра місіянерскую працу ў Горадні грэка-каталіцкага сьвятара а. Віктара Данілава, якога высьвяціў у 1976 годзе ўкраінскі грэка-каталіцкі біскуп Уладзімір Стэрнюк. У газеце "Царква" былі надрукаваныя яго ўспаміны, а таксама шэраг матэрыялаў пра вернікаў з уніяцкіх парафіяў, створаных яшчэ ў міжваенны час (у Альпені, Гараднай, Таракані, Альбярціне, Бабровічах і інш.), якія праз усё сваё жыцьцё трымаліся сваёй веры. Хтосьці з іх час ад часу езьдзіў у адзінкавыя яшчэ незачыненыя касьцёлы, хтосьці бараніў ад бязбожнай савецкай улады хрысьціянскую веру і маліўся ў праваслаўных храмах, іншыя (асабліва ўкраінцы з паходжаньня) езьдзілі да падпольных грэка-каталіцкіх сьвятароў ва Ўкраіну. А былі і тыя, што маліліся дома і аддана чакалі ўніяцкага сьвятара аж да сьмерці. Многія з уніятаў умацоўваліся ў веры праз ліставаньне з сваімі былымі душпастырамі, якія вымушаныя былі зьехаць за мяжу. У Пінску (а раней – у Гарадзішчы) пасьля вайны многія гады жылі, маліліся, дапамагалі высланым у лагеры сьвятарам і несьлі служэньне пры парафіі некалькі грэка-каталіцкіх манахіняў з Задзіночаньня сясьцёр місіянерак "Дзеці Марыі", манастыр якіх быў да вайны ў Зарэччы (в. Церабень) пад Пінскам. Апошняя з гэтых манахіняў Кацярына Саварын, якая заўсёды хадзіла ў манаскім габіце і служыла пры касьцёле ў Пінску, памерла на пачатку 1980-ых. Служэньне гэтых манахіняў яшчэ патрабуе свайго больш грунтоўнага дасьледаваньня.

Ведаючы, што ў міжваенны час у Заходняй Беларусі былі створаны ўніяцкія парафіі, а ў 1939 годзе заснаваны Беларускі экзархат ГКЦ, не забывалі пра гэты малы статак і ўкраінскія грэка-каталіцкія сьвятары і біскупы. Некалькі разоў на год некаторыя з манахаў-базыльянаў таемна рабілі паломніцтва па мясьцінах, зьвязаных са сьвятым Язафатам (Жыровічы, Вільня, Віцебск, Полацак), іншыя – па дарозе ў Прыбалтыку, дзе рэлігійны перасьлед быў трохі меншы і дзе былі дзьве каталіцкія семінарыі на ўвесь СССР, спыняліся ў беларускіх каталіцкіх парафіях і служылі ў касьцёлах грэка-каталіцкія набажэнствы, спавядалі вернікаў. Сёньня дакладна ведаем пра такія факты ў Слоніме, Пінску, Лагішыне, Горадні.

Цікавыя факты пра малітоўнае жыцьцё грэка-католікаў у падпольлі і іх сувязі ў Беларусі нядаўна паведаміў езуіт айцец Казімір Жыліс, які доўгі час працаваў у мястэчку Індура пад Горадняй, а цяпер служыць у Горадні. Выявілася, да яго ў Індуру ня раз прыязджаў падпольны грэка-каталіцкі біскуп Паўло Васылык – адна з ключавых постацяў нязломнай Грэка-Каталіцкай Царквы. Ён першы з біскупаў разам з групай сьвятароў і вернікаў адважыўся публічна заявіць на ўвесь сьвет 4 жніўня 1987 году пра выхад УГКЦ з падпольля. Двойчы ён быў увязьнены ў савецкіх лагерах (1947-1955 і 1959-1964 гг.), а пасьля вызваленьня многія гады вымушаны быў жыць без прапіскі і туляцца па хатах вернікаў, двойчы на яго рабіліся замахі. Вось што распавёў пра свае кантакты з ім і грэка-католікамі а. Казімір Жыліс:



• *Айцец Казімір ЖЫЛІС (нар. 04.03.1945) – капелан у турме ў Горадні і душпастыр літоўскай супольнасьці, дырэктар вiдэастудыі Гарадзенскай дыяцэзіі. На пачатку 1980-ых – сябра «Камітэту абароны правоў вернікаў».*

"Я стаў сьвятаром у 1973 годзе. Пасьля сваіх сьвячаньняў некаторы я час працаваў у Літве. Ад знаёмага сьвятара я даведаўся, што ў Віньніцы на Ўкраіне патрэбны сьвятар, і няма нікога, хто б згадзіўся туды ехаць. Я адказаў, што калі зусім няма нікога, то я згодзен. Паехаў туды, паглядзеў. Са сьвятаром з Хмяльніцкага, які абслугоўваў католікаў Віньніцы, мы пайшлі да ўпаўнаважанага па справах рэлігіяў, і той згадзіўся, каб я стаў



• **Біскуп Паўло ВАСЫЛЫК**
*(08.08.1926 - 12.12.2004)*

пробашчам у Віньніцы.

У Віньніцы падпольна працавалі два грэка-каталіцкія сьвятары. Я думаю, улады ведалі пра іх, але асабліва не перасьледавалі. Патаемна яны прыходзілі да мяне дапамагаць. Напрыклад, спавядалі перад сьвятамі, наведвалі хворых, служылі ў іх дамах Літургіі, удзялялі сьв. Прычасьце. Гэта быў дзесьці 1978 год. І прыкладна ў гэты час прыязджаў у Хмяльніцкі грэка-каталіцкі біскуп Паўло Васылык. Пазьней мы сустракаліся з ім яшчэ і ў Львове, таксама ён прыязджаў да мяне ў Віньніцу. Так мы пачалі сябраваць. Біскуп Васылык прысылаў мне на сьвяты сьвятара, які дапамагаў спавядаць. У часы перасьледу рэлігіі гэта было больш бясьпечна, чым запрашаць сваіх віньніцкіх сьвятароў.

У 1983 годзе я прыехаў на Беларусь, а ў кастрычніку была мая першая афіцыйная багаслужба. У Індуру часта да мяне прыязджаў біскуп Васылык. Кожны раз, калі ехаў у Літву, ён спыняўся ў мяне, служыў Літургію. Аднойчы нават здарылася гэта ў нядзелю. І біскуп і два сьвятары, якія былі з ім, служылі ў нядзелю ў касьцёле грэка-каталіцкую літургію на царкоўнаславянскай мове. Я афіцыйна абвясьціў, што гэта грэка-каталіцкі біскуп – людзі прынялі яго прыхільна. Служба была чытаная, трывала сорак пяць хвілінаў. Пасьля гэтай багаслужбы мяне выклікалі да ўпаўнаважанага, бо гэта былі яшчэ васьмідзясятыя гады. Яны пыталіся: "Хто дазволіў?" А я адказваў: "А хто забараняў?" Біскуп Васылык быў у мяне таксама на маім юбілеі. Ён таксама служыў тады, але ўжо ў лацінскім абрадзе, у саслужэньні.

Таксама я быў знаёмы з грэка-каталіцкім сьвятаром айцом Віктарам Данілавым. Нас пазнаёміў тагачасны рыма-каталіцкі дэкан ксёндз Міхал Арановіч. Яны вельмі сябравалі, айцец Віктар дапамагаў яму ў Горадні. Айца Віктара нават жартам называлі "трынаццаты апостал". На жаль, мы рэдка сустракаліся, бо тады не было асабліва часу на нейкія сяброўскія сустрэчы – я быў адзіным каталіцкім сьвятаром паміж Горадняй і Ваўкавыскам. Ня ведаю, ці прыходзілі да мяне вернікі грэка-католікі, бо ў тыя часы не прынята было пра гэта пытацца. Я задаваў адзінае пытаньне: "Ты паляк ці беларус", і ўжо размаўляў з ім на яго роднай мове. Увогуле, лішніх пытаньняў у тыя часы не задавалі, каб не напалохаць людзей".

**а. Андрэй КРОТ, Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Навагодняя духоўная вандроўка івацэвіцкіх грэка-католікаў

***3 студзеня 2010 году, у першую нядзелю новага году, група вернікаў грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Жыровіцкай з Івацэвічаў зьдзейсьніла духоўную вандроўку ў Слонім, Жыровічы і Быцень, каб памаліцца да Багародзіцы ў месцах, дзе асабліва шануецца яе Жыровіцкі абраз.***

Перад гэтым у Івацэвічах быў прэзентаваны выдадзены на замову івацэвіцкай парафіі Маці Божай Жыровіцкай грэка-каталіцкі царкоўны каляндар на 2010 год, прысьвечаны Жыровіцкаму абразу Багародзіцы. У 2010 годзе адзначаюцца 280-ыя ўгодкі каранаваньня цудадзейнай Жыровіцкай іконы Багародзіцы папскімі каронамі, якое адбывалася ў 1730 годзе з блаславеньня Папы Рымскага Бенядыкта XIII. І гэтая духоўная вандроўка івацэвіцкіх вернікаў была прымеркавана да пачатку году, які ў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве будзе праходзіць пад дэвізам «Жыровіцкая Заступніца – Маці Еднасьці».

Найперш пілігрымы, сярод якіх былі таксама Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей Гаек і семінарыст Сяргей Раюнец, якія навучаецца ў Рыме, заехалі ў Ліпнішкі дзеля духоўнай размовы з а. Вітальдам Жэльветрам. Гэты ераманах-капуцын больш за 20 гадоў служыў у Слоніме, дзе адрамантаваў зьнявечаны ў савецкія часы барочны касьцёл сьв. Андрэя і вярнуў для ўшанаваньня вернікаў менавіта той Жыровіцкі абраз Багародзіцы, які быў падрыхтаваны для каранацыі ў 1730 годзе.

Затым вернікі прынялі ўдзел у сьвятой Імшы ў касьцёле сьв. Андрэя ў Слоніме, дзе маліліся разам з мясцовымі рыма-католікамі і грэка-католікамі.

Напрыканцы сваёй духоўнай вандроўкі пілігрымы памаліліся ў Жыровічах і праз Быцень вярнуліся ў Івацэвічы, каб наступнага ранку перад копіяй Жыровіцкай іконы, што ўшаноўваецца ў грэка-каталіцкай капліцы ў Івацэвічах, падзякаваць Багародзіцы за дар гэтае пілігрымкі і яе духоўны плён.

Духоўным дэвізам для вернікаў у гэтай пілігрымцы былі словы малітвы з Акафісту перад Жыровіцкай іконай Багародзіцы: «Радуйся, вышэйшая за сілы анёльскія, Богам абраная спрадвеку».

**Павел ДАЙЛІД,** *г. Івацэвічы*



# Успамін мучаніцкай сьмерці экзарха Антона Неманцэвіча

***Ад нядаўняга часу 6 студзеня, у дзень сьвята Богазьяўленьня, беларускія грэка-католікі ўзгадваюць мучаніцкую сьмерць Экзарха Антона Неманцэвіча, замучанага ў менскай турме СД 6 студзеня 1943 году.***

6 студзеня 2010 году ў капліцы Душпастырскага цэнтру сьвятога Язэпа адбылася ўрачыстая Літургія сьвята Богазьяўленьня з вялікім асьвячэньнем вады. Падчас Літургіі протапрасьвітар Яўген Усошын адзначыў, што менавіта ў гэты дзень, у які паводле юльянскага календара прыпадае пярэдадзень Раства Хрыстовага, а паводле грыгарыянскага календара сьвяткуецца Хрост Госпада нашага Ісуса Хрыста, у 1943 годзе памёр у турме нямецкага нацыстоўскага СД у Менску першы экзарх Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы а. Антон Неманцэвіч. Гэты вялікі падзьвіжнік сьвятой веры і Зьяднаньня памёр як мучанік. Ён жыў і нёс сваё служэньне ва Ўсходняй Місіі айцоў езуітаў у Альбярціне, недалёка ад Жыровічаў, дзе знаходзіцца вялікая сьвятыня беларускага народу – цудадзейная Жыровіцкая ікона Багародзіцы, шанавальнікам якой быў Экзарх Антон. «У гэтым годзе, калі мы сьвяткуем 280-годдзе каранаваньня Жыровіцкай іконы Маці Божай, з асаблівай малітоўнай увагай узгадваем подзьвіг жыцьця і мучаніцкай сьмерці таго, хто рупліва працаваў на Божай ніве ў імя сьвятога Зьяднаньня пад Покрывам Жыровіцкай Багародзіцы», – падкрэсьліў а. Яўген.

Айцец Антон Неманцэвіч, замучаны ў менскай турме СД, быў пахаваны 9 студзеня 1943 г. на нямецкіх могілках у Менску сьвятаром мясцовай праваслаўнай царквы.

Зямля з месца ягонага пахаваньня захоўваецца каля помніка “Дрэва вясны” ў двары Душпастырскага цэнтра сьвятога Язэпа.

У адным з сваіх пасланьняў Апостальскі Візітатар БГКЦ архім. Сяргей Гаек адзначыў: «Айцец Антон Неманцэвіч, Экзарх беларускіх грэка-католікаў ва ўсім сваім жыцьці і служэньні стараўся быць пастырам і сьведкам Евангельля для ўсіх сваіх суайчыньнікаў, бяз розьніцы веравызнаньня ці палітычных поглядаў. Ягоным вялікім ідэалам была зьяднаная Царква. Як тэолаг і душпастыр цярпліва і нястомна стараўся ён будаваць братэрскія адносіны з праваслаўнымі ў духу “пакорлівасьці і рэсьпекту для праваслаўнай Царквы”».

*Паводле Svjazep.org*



# Сьвята ў Гомелі

***Гомельская парафія Трох сьвяціцеляў Васіля Вялікага, Яна Залатавуснага і Рыгора Багаслова, памяць якіх узгадваецца 30 студзеня, адна з першых грэка-каталіцкіх парафіяў, якая аднавіла сваю дзейнасьць у Беларусі на пачатку 1990-ых гадоў.***

Ужо стала добрай традыцыяй на адпустовыя сьвяты запрашаць вернікаў з іншых парафіяў. У гэтым годзе далучыліся да сьвяткаваньня ў Гомелі прадстаўнікі менскіх парафіяў. Сьвяточную Боскую Літургію ўзначаліў а. Васіль Ягораў. Саслужыў з ім айцец протапрасвітар Зьміцер Грышан.

У казані а. Зьміцер адзначыў, што штогадовае сьвята Трох сьвяціцеляў – нібы экзамен для парафіі. Ён адзначыў, што экзамен у духоўным жыцьці не падобны да экзаменаў у навучальнай установе, але паказвае, наколькі чалавек становіцца сьведкам сьвятасьці. Для гомельскіх вернікаў асаблівым прыкладам сьвятасьці зьяўляюцца Васіль Вялікі, Ян Залатавусны і Рыгор Багаслоў. Грэка-каталіцкая парафія ў Гомелі, якая ўжо шмат гадоў ня мае сталага душпастыра, уяўляе сабой прыклад надзеі для Царквы. Нягледзячы на цяжкія варункі, парафія ня толькі не перастала існаваць, але і патроху павялічваецца.

Варта адзначыць, што сёлетняе сьвята парафіі праходзіла ў Год сьвятарства, які адзначаецца ў Каталіцкай Царкве, а сьвятыя Васіль, Ян і Рыгор ёсьць прыкладамі сьвятарскага служэньня. Таму малітва ў гомельскай парафіі Трох сьвяціцеляў мела асаблівае значэньне, як малітва за сьвятароў усёй нашай Царквы.

Віншуем таксама двух маладых вернікаў, якія ў час парафіяльнага сьвята першы раз прынялі сьвятыя Тайны Цела і Крыві Госпада нашага Ісуса Хрыста..

Пасьля багаслужбы была традыцыйная агапа, падчас якой вернікі і сьвятары маглі паразмаўляць і падзяліцца навінамі.

*Паводле Svjazep.org*

# Стасункі ўсходніх каталікаў і праваслаўных

***Вітаю Вас, паважная рэдакцыя газеты. Якія адносіны паміж Беларускай Уніяцкай Царквой і Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой? Якія яны ёсьць цяпер і якія тэндэнцыі?***

**Сяргей СЬМІРНОЎ**, *г. Менск*

Сёньня ў Беларусі няма афіцыйна зарэгістраваных структураў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, ёсьць асобныя вернікі, якія гавораць пра сваю прыналежнасьць да БАПЦ. Парафіі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы хоць і афіцыйна зарэгістраваныя і некаторыя з іх нават маюць свае душпастырскія цэнтры, аднак ерархічна Царква застаецца пакуль незавершанай. У Беларусі БГКЦ ня мае свайго біскупа і наўпрост падпарадкаваная Апостальскай Сталіцы. Таму ніякіх стасункаў паміж БАПЦ і БГКЦ у Беларусі сёньня няма.

Беларускія грэка-каталіцкія сьвятары ў замежжы падтрымлівалі і падтрымліваюць сёньня асабістыя сяброўскія кантакты з сьвятарамі і вернікамі БАПЦ, якая мае свае структуры пераважна ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі і Вялікабрытаніі.

Аднак сітуацыя для разьвіцьця супрацоўніцтва ўскладняецца ня толькі не заўсёды прыхільным стаўленьнем да Грэка-Каталіцкай Царквы беларускіх праваслаўных, але яшчэ і шматлікімі падзеламі ўнутры самой БАПЦ і яе няпэўным кананічным статусам, які не вызнаецца (ці ставіцца пад сумнеў) нават у праваслаўным сьвеце.

Беларускія грэка-каталікі заўсёды адкрытыя на кантакты з праваслаўнымі братамі любой юрысдыкцыі. Тым больш, што маюць заахвочваньне айцоў Другога Ватыканскага Сабору: *“На Ўсходніх Цэрквах, што знаходзяцца ў лучнасьці з Апостальскім Пасадам, ляжыць асаблівы абавязак заахвочваць да адзінства ўсіх хрысьціянаў, асабліва ўсходніх, згодна з нормамі Дэкрэту гэтага Сабору “Аб экуменізме”, перадусім праз малітву, прыклад жыцьця, багавейную вернасьць старажытнай усходняй традыцыі, праз узаемнае і ўсё больш поўнае пазнаньне адзін аднаго, праз супрацоўніцтва і братэрскую павагу да ўсяго і да ўсіх”* (Дэкрэт “Аб Усходніх Каталіцкіх Цэрквах”, п. 24). Паводле царкоўных дакументаў, якія рэгламентуюць жыцьцё каталікаў візантыйскага абраду, *“дазваляецца дзеля слушнай прычыны супольны ўдзел у сьвятых чынах, рэчах і месцах усходніх каталікоў разам з разьяднанымі з намі братамі”* (Дэкрэт “Аб Усходніх Каталіцкіх Цэрквах”, п. 28).

Практыка штодзённага жыцьця БГКЦ сьведчыць, што на парафіяльным узроўні шмат дзе існуюць братэрскія кантакты з асобнымі праваслаўнымі вернікамі і нават невялікімі групамі вернікаў. Некаторыя з нашых праваслаўных братоў бяруць удзел у малітоўным жыцьці, удзельнічаюць у рэкалекцыях, пілігрымках, царкоўных сьвятах і імпрэзах.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Швейцарскі часопіс – пра Унію і БГКЦ сёньня

***На Захадзе веды пра Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву сёньня мінімальныя, а часам і зусім адсутнічаюць. Тым больш каштоўнай ёсьць увага, якую праявіў да БГКЦ швейцарскі часопіс G2W (скарачэньне ад «Glaube in der 2. Welt» – «Вера ў 2-м сьвеце»), які прэзентуе сябе як экуменічны форум па пытаньнях веры, рэлігіі і грамадзтва на Ўсходзе і Захадзе. Летась у гэтым часопісе зьявіліся дзьве публікацыі пра Ўніяцкую Царкву ў Беларусі і сучасны стан БГКЦ.***

Швейцарскі месячнік G2W, рэдакцыя якога знаходзіцца ў Цюрыху, прысьвечаны пытаньням рэлігіяў і канфесіяў ды наогул духоўнаму і рэлігійнаму жыцьцю ў краінах былога сацлагеру. Выходзіць гэтае выданьне па-нямецку і распаўсюджваецца таксама ў Нямеччыне і Аўстрыі (таксама выдаецца ў Расеі пад назвай «Вера во втором мире»). G2W зьяўляецца навукова-папулярным часопісам. Пішуць у ім пераважна навукоўцы, аўтарытэты сваіх галінаў, аднак на даступнай мове. Разьлічаны ён на кола інтэлігентаў, зацікаўленых у атрыманьні інфармацыі па пытаньнях міжканфесійнага дыялогу, экуменізму, якіх цікавіць таксама гісторыя і сучасны стан розных веравызнаньняў у краінах Усходняй Еўропы.

Многія гісторыкі, тэолагі і рэлігіязнаўцы на Захадзе слаба ведаюць канфесійную гісторыю Беларусі і асабліва ролю Ўніяцкай Царквы ў фармаваньні беларускай нацыі. Праблематыка Уніі наогул часьцей за ўсё зьвязваецца з гісторыяй Украіны, у той час як пасьля падпісаньня ў Берасьці царкоўнай Уніі ў 1596 годзе амаль стагоддзе падтрымку яна мела пераважна на беларускіх землях.

Не выключэньнем стаў і швейцарскі месячнік G2W, дзе перад тым як узьняць тэму БГКЦ і Уніі ў Беларусі быў зьмешчаны даволі вялікі артыкул пра гісторыю Рэфармацыі ў Беларусі. Нямецкі аўтар, прафесар тэалогіі, яўна перабольшыў значэньне Рэфармацыі (пратэстантызму) у станаўленьні беларускай нацыі. Паводле аўтара, гэта яна паспрыяла зьяднаньню і склала падмурак беларускай нацыі. І хоць аўтар прызнае пэўныя заслугі і праваслаўя, і каталіцызму, аднак карціна атрымалася зусім скажонай. Тым больш дзіўным выглядала замоўчваньне ролі і значэньня Ўніяцкай Царквы. Гэта выклікала палеміку ў часопісе – сваё меркаваньне




выказала вядомы швейцарскі беларусіст спн. Моніка Банькоўскі. Каб больш грунтоўна асьвятліць праблематыку і пазнаёміць сваіх чытачоў з гісторыяй і сучасным станам Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі, Рэдакцыя часопісу G2W таксама палічыла неабходным зьвярнуцца да вядомага дасьледчыка гісторыі Ўніяцкай Царквы доктара гістарчыных навук спн. Сьвятланы Марозавай – прафесара Гарадзенскага ўніверсітэту імя Я.Купалы. Вынікам гэтага супрацоўніцтва сталі дзьве яе публікацыі ў гэтым нямецкамоўным швейцарскім экуменічным часопісе: «Берасьцейская Унія» і «Унія: новае адраджэньне ў Беларусі» *(Die «Union von Brest». In: G2W - Ökumenisches Forum für Glauben, Religion und Gesellschaft in Ost und West, Nr. 7-8/2009, 34-38; Svjatlana Marozava: Union: Neubeginn in Weißrussland. In: G2W - Ökumenisches Forum für Glauben, Religion und Gesellschaft in Ost und West, Nr. 7-8/2009, 39-40.)*

У сваіх артыкулах д-р С.Марозава акрэсьліла гістарычны шлях і ролю Уніі ў Беларусі ў шырокім кантэксьце: царкоўна-палітычным, культурным, адукацыйна-асьветніцкім, нацыястваральным, адзначыла прычыны скасаваньня Уніі і спробы яе ўзнаўленьня ў Заходняй Беларусі ў міжваенны час. Вельмі важным ёсьць тое, што аўтар закранула тэму стварэньня Беларускага грэка-каталіцкага экзархату, адраджэньне Царквы на пачатку 1990-ых і сучаснае становішча (прававое і ідэйна-культурнае), стаўленьне да яе ўладаў, а таксама праваслаўнай і рыма-каталіцкай Царквы ў Беларусі. Пра лёс Уніі ва Ўкраіне пісалася ў G2W не аднойчы, і ў многіх чытачоў магло скласьціся ўражаньне, што Унія – гэта зьява выключна ўкраінская. Публікацыя грунтоўных матэрыялаў пра лёс Уніі ў Беларусі д-ра С.Марозавай, безумоўна, запоўніць гэты прагал.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**



# Батлейка лепшая за мультфільмы

***Добрай нагодай больш глыбока і радасна перажыць Раство для дзяцей – выхаванцаў сьпецыялізаваных дзіцячых установаў Горадні – стала батлейка, якую паказалі ім валанцёры, якія дзейнічаюць пры гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай.***

Група валанцёраў аб'ядноўвае ня толькі парафіяльную моладзь, але таксама маладых хрысьціянаў іншых парафіяў. Паўстала яна напярэдадні сьвятаў, калі маладыя хрысьціяне вырашылі аб'яднацца, каб разам паглыбляць сваю веру і несьці дапамогу іншым людзям. Батлейка стала першай акцыяй валанцёрскай групы.

Валанцёры арганізавалі агулам ужо сем выступаў: у дзіцячым доме сямейнага тыпу ў вёсцы Панямунь, гарадзенскім гарадзкім і раённым прытулках, а таксама ў дзіцячым рэабілітацыйным цэнтры. Сьвята складалася з лялечнага сьпектаклю пра Нараджэньне Ісуса Хрыста, гульняў, ну, і канешне ж, прыходу сьвятога Мікалая з падарункамі.

Батлейка вельмі спадабалася дзецям і выхавацелям дзіцячых установаў, якія шчыра дзякавалі валанцёрам і запрашалі іх на новыя выступы. Самі валанцёры таксама былі ўражаныя сустрэчамі з дзецьмі, якія вельмі адкрытыя на новых людзей, з увагаю глядзелі лялечную пастаноўку, ахвотна ўдзельнічалі ў гульнях і расказвалі вершы або сьпявалі песьні сьвятому Мікалаю. Вельмі ўразіла валанцёраў выказваньне адной з выхавацелек дзіцячага рэабілітацыйнага цэнтру, дзе лекаваньне праходзяць дзеці з рознымі хваробамі (найчасьцей – з ДЦП), што калі для дзяцей прывозілі мультфільмы на вялікім экране, літаральна праз пару хвілінаў яны ўжо гублялі ўвагу. А батлейку з цікавасьцю глядзелі ад пачатку да канца.

**а. Андрэй КРОТ**

# Чароўная скрынка «Батлейка»

*– Дзед Мароз, якога колеру ў цябе валасы?*
*– Белыя…*
*– А-а-а, бо да нас прыходзіў Дзед Мароз, дык у яго былі зялёныя.*

Так пачалося знаёмства сьляпой ад нараджэньня дзяўчынкі са сьвятым Мікалаем, у ролі якога выступіў грэка-каталіцкі сьвятар айцец Андрэй.

У гарадзенскі рэабілітацыйны цэнтр прыехала наша валанцёрская група – разам са сьвятым Мікалаем, падарункамі, «Батлейкай» і гульнямі. Найперш разгарнулі батлеечны сьпектакль. Гэтая беларуская традыцыя ладзіць лялечныя сьпектаклі ў скрынцы на тэмы Божага Нараджэньня сягае ажно да XV стагоддзя. Усё выглядае вельмі казачна. У скрыні адчыняюцца дзверы, адвешваецца занавес і запальваюцца агеньчыкі. А на маленькую сцэну выходзяць лялькі – Цар Ірад з верным ваякам, Анёл, Чорт, Сьмерць, Тры Каралі, Пастушкі, са сваімі характарамі, у адпаведных строях. Падзеі каляднай драмы разгортваюцца вакол нараджэньня Ісуса Хрыста.



Ролі лялек агучваюць акторы, якія хаваюцца за скрыняй. Дзеці назіраюць за сьпектаклем вельмі сур'ёзна. Драматычныя падзеі ў царстве Ірада, які загадаў забіць усіх малых дзетак, а потым за гэта Сьмерць здымае яму галаву касой, уражваюць дзяцей.

Уважліва слухаюць нават тыя дзеці, якія з-за праблемаў са зрокам ня могуць убачыць лялькі і яркія дэкарацыі.

Асабліва радасна ўспрымалі дзеці рухавыя гульні. Калі гулялі ў папяровыя сьнежкі, выхавацелька прытрымала аднаго хлопчыка на крэсьле: «Яму нельга, бо будзе ўвесь час падаць». Хлопчык назіраў за гульнёй з бляскам у вачах, а потым не стрываў і рвануў у кола – з якой асалодай ён кідаў тыя сьнежкі!

З маленькай Таняй, якая ня бачыць, «разглядаем» мяккую цацку зайчыка. «Вось гэта ў яго вушкі, – перабірае дзяўчынка, – гэта лапы, гэта, мусіць, хвост, а гэта, – задумалася на імгненьне, – о, этыкетка!».

Калі разьвіталіся, выхавацелька горача дзякавала і тлумачыла, што сам персанал быў вельмі здзіўлены рэакцыяй дзяцей. Яны ня могуць доўга трымаць увагу і даволі хутка пераключаюцца на нешта іншае. Калі паказвалі мульцікі на вялікім экране, дзеці пратрывалі хвілінаў дзесяць і пачалі распаўзацца – хто папоўз пад экран, хто за крэсла, хто гуляць. А тут яны прасядзелі ўвесь сьпектакль, а потым актыўна ўдзельнічалі ва ўсіх гульнях. Верш для сьвятога Мікалая нават выйшла расказаць дзяўчынка, якая практычна ня ўмее гаварыць. Затое з якой выразнай інтанацыяй распавядала яна на сваёй мове!

«Сама ідэя ўзьнікла як ідэя хрысьціянскага валанцёрскага служэньня, – гаворыць айцец Андрэй, кіраўнік валанцёрскай групы. – Маладыя хрысьціяне сабраліся разам і вырашылі, што акрамя ўласнага духоўнага разьвіцьця мусіць быць яшчэ дапамога тым, хто ў патрэбе. Наша група ўтварылася акурат напярэдадні сьвятаў Божага Нараджэньня, таму першай справай, за якую мы ўзяліся, – сьвяточныя вечарыны для хворых дзетак, выхаванцаў дзіцячых дамоў і прытулкаў.

Усяго за час калядных сьвятаў нашая валанцёрская група паказала 6 батлеечных сьпектакляў разам з гульнёвай праграмай для гадаванцаў дзіцячых дамоў, прытулкаў і рэабілітацыйнага цэнтру. Мы падрыхтавалі падарункі для 110 дзетак. Перад першай сустрэчай з дзецьмі мы крыху хваляваліся: як яны ўспрымуць лялечны сьпектакль, ці захочуць з намі гуляць, ці спадабаюцца ім нашыя загадкі і падарункі? І яшчэ: ці здолеем мы знайсьці агульную мову з дзецьмі, якія маюць асаблівасьці ў фізічным і разумовым разьвіцьці, ці не разгубімся, убачыўшы хворых дзетак?



На шчасьце, задавальненьне ад супольнага сьвята атрымалі і дзеці, і іх выхавацелі, і валанцёры.

**Сашка ВЕРАЦЕЙЧЫК**

*Фота Юры Седзянеўскага, Яна Габіса*

*Штотыднёвік «Твой Стыль» (http://www.t-styl.info)*

# У чаканьні цудоўнага сьвята



***З нагоды сьвятаў сьв. Мікалая Цудатворцы і Божага Нараджэньня ў віцебскай грэка-каталіцкай парафіі Ўваскрасеньня Хрыстова адбыўся шэраг сьвяточных мерапрыемстваў.***

6 сьнежня да дзетак парафіі завітаў сам сьвяты Мікалай. Хоць яго прыход і ня стаў нечаканасьцю, бо дзеткі ўжо загадзя рыхтаваліся да яго прыходу, але, адназначна, сюрпрызам стала тое, што сьвяты Мікалай зусім не сьпяшаўся дараваць свае падарункі. Бо, як вядома, каб атрымаць падарункі, трэба перад гэтым цэлы год добра сябе паводзіць і слухацца бацькоў ды настаўнікаў. А гэта атрымалася не ва ўсіх. Што ж рабіць? Дзеці знайшлі выхад. Дзіцячыя вершы, сьпевы і шчырыя ўсьмешкі прыхілілі сьв. Мікалая. Ды і не дарэмна ж, ён прынёс цэлы мех падарункаў!

Але гэта было ня ўсё. Напэўна, сьв. Мікалаю так спадабалася ў гэтым парафіяльным асяродку, што 18 сьнежня ён зноў вырашыў завітаць сюды ў госьці. Але на гэты раз тут яго чакала непаўнаспраўная моладзь. Для сьв. Мікалая яны таксама расказвалі вершы, сьпявалі і нават танцавалі, і рабілі гэта з непадкупнай шчырасьцю і самаадданасьцю. Валанцёры падрыхтавалі для іх пастаноўку пра дзяцінства сьв. Мікалая. У сваю чаргу непаўнаспраўная моладзь вырашыла не адставаць! Яны прынялі актыўны ўдзел у падрыхтоўцы інсцэніраванай батлейкі, якая і была паказана ў парафіяльным цэнтры 25 сьнежня, на сьвята Раства Хрыстова. Узрушаны прыгожай батлейкай, сьв. Мікалай папрасіў валанцёраў падрыхтаваць для непаўнаспраўнай моладзі навагодні баль.





Такім чынам, напярэдадні Новага году, 29 сьнежня, у памяшканьні клубу “Бэтэль-Карытас” адбылася сьвяточная праграма. У праграме навагодняга балю былі гульні, конкурсы, забавы і нават дыскатэка. У сваю чаргу, дабрачыннае таварыства “Карытас” падрыхтавала салодкі стол і падарункі. Моладзі ўсё вельмі спадабалася, і яна з нецярпеньнем чакае наступнага Новага году!

**а. Алесь ШЫБЕКА**
*г. Віцебск*



# Сьвяты Мікалай ідзе да дзяцей





***У Віцебску завяршылася акцыя “Сьвяты Мікалай ідзе да дзяцей”, якая была арганізавана валанцёрскім рухам сьв. Мікалая. Гэтае мерапрыемства праводзілася валанцёрамі ўпершыню і было распачата перад сьвятам сьв. Міколы Цудатворцы (6 сьнежня 2009 году).***



Галоўная ідэя акцыі заключалася ў тым, што сьв. Мікалаем на пэўны час мог стаць кожны чалавек, хто захацеў бы падарыць сьвятло хрысьціянскай любові дзеткам з прытулку і бедных сем’яў, а таксама непаўнаспраўным людзям. Для гэтага трэба было напісаць ліст ад імя сьв. Мікалая і спакаваць невялікі падарунак. Так, да акцыі далучыліся многія вернікі з каталіцкіх парафіяў у Віцебску і ў Шуміліна. У перыяд Калядаў валанцёры з падарункамі наведалі малазабясьпечаныя сем’і, сацыяльныя прытулкі часовага знаходжаньня Віцебска і Лёзна, а таксама псіха-неўралагічны інтэрнат у Селютах, што пад Віцебскам. Дзеці радаваліся сьціплым і адначасова каштоўным падарункам, якія былі зробленыя з любоўю і цеплынёй простымі людзьмі-хрысьціянамі. А яшчэ малыя хлопчыкі і дзяўчынкі з захапленьнем чыталі лісты ад сьв. Мікалая, падзіцячы задавалі шмат пытаньняў пра гэтага сьвятога і пра Ісуса Хрыста.

Для людзей, якія мелі дачыненьне да акцыі, валанцёры руху сьв. Мікалая падрыхтавалі падзяку ў выглядзе плакатаў з фотаздымкамі шчасьлівых дзетак, якія яны змогуць убачыць у сваіх парафіях.

Удзельнікі валанцёрскага руху лічаць, што акцыя “Сьвяты Мікалай ідзе да дзяцей” прайшла пасьпяхова, пра гэта сьведчаць шчырая радасьць у вачах дзетак і ціхае хрысьціянскае служэньне ў імя Любові.

**Ірына ЛОБАН**
*г. Віцебск*

# Непатрэбнае шчасьце

***Для дзетак з сацыяльнага прытулку часовага ўтрыманьня ў Віцебску Наста Забалатнюк – як дзяўчынка з казкі. Яна прыходзіць да іх два разы на тыдзень, каб падзяліцца радасьцю, проста пабыць з імі, кажучы пра дабро. Можа, нездарма імя Настачка – самае распаўсюджанае ў славянскіх казках.***



Насьця Забалатнюк *(на фота)* родам з Наваполацку. Зараз вучыцца на другім курсе мастацка-графічнага факультэту Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэту імя П.Машэрава. Хоць, як прызнаецца сёньня, з дзяцінства марыла быць выхавацелькай. Падчас вучобы ў школе заўсёды дапамагала сваім аднаклясьнікам, а на Каляды з бацькам неаднаразова ладзілі дуэт для дзетак, дзе ён быў Дзедам-марозам, а яна – Сьнягуркай. Добрая звычка дзяліцца радасьцю і любоўю падчас сьвятаў і ў простыя будні дні захавалася ў Насты і сёньня. Нездарма, апынуўшыся ў Хрысьціянскім валанцёрскім руху сьв. Мікалая, яна адразу абрала для сябе заняткі з дзецьмі як асноўны напрамак дзейнасьці.

І вось ужо каля году яна наведвае прытулак, дзе выхаванцы мяняюцца, але застаецца нязьменнай валанцёрская праца Насты – кідаць добрае зерне ў дзіцячую душу. Для гэтых дзетак самым дзейсным прыкладам і сьцьвярджэньнем існаваньня Бога, Які ёсьць Любоў, яна лічыць простую размову пра дабро, а таксама пра ўласныя ўчынкі для зараджэньня надзеі і веры ў маленькіх сэрцах. “Дзеці, як гэта ня дзіўна, часта проста ня ведаюць, што існуе добры сьвет, што нельга красьці і забіваць, бо іх гэтаму ніхто не навучыў”, – кажа Наста. Таму для яе адным з кранальных момантаў у прытулку было пытаньне 12-гадовага хлопчыка пра дзесяць запаведзяў. Хаця пра Бога пытаюцца ў такіх месцах рэдка, а калі і цікавяцца, то з большага тыя, хто сустракаўся з ім у жыцьці: быў у царкве з бацькамі ці штосьці чуў. Наста разумее, што мы абавязаны пра Бога казаць, але ні ў якім разе не навязваць, бо гэта можа адштурхнуць ад веры ня толькі дзіця, але і дарослага.

У своеасаблівым Настачкавым пакліканьні было ўжо некалькі цікавых выпадкаў, якія яшчэ раз упэўнілі яе ў абраным шляху – дапамагчы падняцца і выпрастацца гэтым дзеткам, што пасьпелі ўжо расчаравацца ў пэўных жыцьцёвых момантах. Наста добра адчувае стан такіх дзяцей і, як можа, ратуе іх духовай падтрымкай у розных складаных сітуацыях. Тады, калі дачка гаворыць па тэлефоне: “Я ўсё разумею, мама!”, пачуўшы ад шалапутнай маці, што тая ня прыйдзе і тым больш не забярэ яе ў бліжэйшы час... Калі хлопец, які для ўсіх ужо здаецца зусім ня здатным да вучобы, застаецца з Настай рабіць урокі, нягледзячы на тое, што да яго прыйшлі сябры… Калі дзяўчынка ня хоча ехаць у новую сям'ю, бо разумее, што будзе там непатрэбным шчасьцем. Перажываньні і стан Насты добра адлюстроўвае яе верш:

*Этой боли я раньше не знала,*
*Моё сердце рвалось на части,*
*Когда я в объятиях сжимала*
*Кому-то ненужное счастье.*

Большасьць дзетак з прытулку адкрытыя, і як гэта не парадаксальна, чым горшая сям'я, тым больш дзеці адкрываюцца на любоў. А менавіта яе так хоча сьцьвярджаць Наста, за што шчыра дзякуе Богу. Таму штотыдзень, у сераду і нядзелю, а 17-й гадзіне яна са сьветлымі думкамі і малітвай бяжыць да сваіх выхаванцаў, якіх, у першую чаргу, лічыць сваімі братамі і сёстрамі ў Хрысьце.

**Ірына ЛОБАН**
*г. Віцебск*



# Радасьць ад Божага Нараджэньня

***Вось ужо мінуў калядны час, і гэта натхняе нас прыгадаць радасьць ад сьвяткаваньня, якую мы разам з нашымі дзецьмі перажылі на самым пачатку, 25 сьнежня, у дзень Раства Хрыстова.***

Супольнае сьвяткаваньне менскіх парафіяў Праведнага Язэпа і сьв. Мікалая пачалося яшчэ ўвечары 24-га з урачыстай вячэрні з Літургіяй Васіля Вялікага, якая паводле старажытнай царкоўнай традыцыі служыцца вечарам напярэдадні самога сьвята. 25 сьнежня, а 12-й гадзіне, адразу пасьля ўрачыстай сьвяточнай Літургіі Яна Залатавуснага, адбылося сьвяткаваньне для ўсіх нашых дзетак і іхніх бацькоў.

Мерапрыемства распачалося ў памяшканьні парафіяльнай бібліятэкі на другім паверсе душпастырскага цэнтру Праведнага Язэпа. Для дзяцей былі арганізаваныя гульні і паказ гісторыі Нараджэньня нашага Збаўцы Ісуса Хрыста, у якім нечакана для сябе ўзялі ўдзел шэраг бацькоў і дзяцей, якія прымерылі на сябе ролі Язэпа, Марыі, Гаспадара гасьцініцы, Ірада, Мудрацоў і Анёла, ды таксама прысутныя сьвятары, якія гралі адпаведныя ролі пастухоў, што прыйшлі ўшанаваць Народжанага. Пасьля гэтай імпрэзы быў паказаны тэатр ценяў, з дапамогаю якога дзеці маглі даведацца гісторыю жыцьця і цудаў сьвятога Мікалая. Гэты тэатр быў па-майстэрску зроблены і паказаны рукамі спн. Алены Маркоўкі, якой хацелася б выказаць асаблівую падзяку.

Другая частка сьвяткаваньняў адбывалася ўжо на першым паверсе, у памяшканьні капліцы, дзе дзеці мелі нагоду сустрэць самога сьв. Мікалая, прачытаць яму свае вершы, прасьпяваць песьні ды арганізаваць карагод. Кожнага з прысутных дзяцей чакаў падарунак і салодкі стол у парафіяльнай кавярні «Эмаус», дзе іхнюю салодкую радасьць маглі разьдзяліць таксама і бацькі.

Вялікі дзякуй за падрыхтоўку сьвята ўсім, хто ў нейкі спосаб спрычыніўся да гэтага: скаўтам і скаўткам – за падрыхтоўку і правядзеньне мерапрыемства; старшыні парафіі сьв. Язэпа сп. Анатолю Сёмуху – за руплівасьць па арганізацыі падарункаў; алтарнаму брацтву і нашым «вандроўніцам» – за ўпрыгожваньне парафіяльнага цэнтру і стварэньне каляднай выставы на вуліцы; акторам, якія шыкоўна адыгралі свае ролі, нягледзячы на тое, што ня ведалі раней аб гэтым; дзякуй сьв. Мікалаю і Тобі, за тое, што знайшлі час заехаць (ці заляцець) да нас на сьвята!

**а. Алесь АЎДЗЯЮК**
*г. Менск*

# Тут яны
## РАСПУСКАЮЦЦА КВЕТКАМІ
## для Хрыста

***Духоўна-малітоўныя сустрэчы для непаўнаспраўных людзей у Віцебску, якія ладзяць валанцёры з руху сьв. Мікалая, кожны раз праходзяць па-новаму: мяняюцца тэмы, паводзіны і настрой удзельнікаў. Аднак заўсёды застаецца нязьменнай атмасфера любові, цеплыні і натуральнасьці. Як дома.***

Бо дзе мы хочам пачуваць сябе, як за каменнай сьцяной? Дзе нас любяць. У доме Божым, у супольнасьці аднадумцаў і дзетак аднаго Бацькі!



У такім духу прайшла чарговая сустрэча для людзей з абмежаванымі магчымасьцямі на тэму “Царква”. Простыя пытаньні: “Дзе вы знаходзіцеся? Што ёсьць Царква?” І па-дзіцячы шчырыя адказы: “Там, дзе моляцца; там дзе каюцца; там, дзе Бог…” Але простасьць і дзіцячая непасрэднасьць адказаў была толькі напачатку. Потым адбылося міжвольнае, але сапраўднае паглыбленьне ў царкоўную тэрміналогію. Хто такія сьвятыя, евангелісты, навошта споведзь, што значыць малітва, які прынцып адлюстраваньня сьвятых на іканастасе, для чаго служаць прадметы таго ці іншага царкоўнага начыньня і г. д. Можа, для верніка, які рэгулярна бывае ў царкве, гэта ўсё і знаёма, але не для людзей, якія толькі пачынаюць рабіць першыя крокі насустрач Хрысту. Хочацца сказаць, што ўдзельнікі сустрэчы рабілі іх упэўнена. Згадзіцеся, ня кожны чалавек, які лічыцца ў грамадзтве паўнацэнным, можа без усялякіх прымхаў і забабонаў пагаварыць па гэтых пытаньнях. Таму цудоўна, калі людзі з дыягназам алігафрэнія ці ДЦП слову “Царква” даюць азначэньне “сукупнасьць вернікаў”, а сьвятыя ў іх уяўленьні тыя, хто моліцца Богу, дапамагае людзям, жыве па Божых запаветах.

Добрае слова пакідае значны сьлед у душы любога чалавека, яно пакідае здольнасьць нашай памяці ўзгадваць яго зноў. Добрае слова лечыць, бо ёсьць праявай любові, якую дае нам Хрыстос. Хтосьці са сьвятых сказаў: “Сьвет трымаецца на малітве”, а самай прыгожай малітвай, з якой мы можам зьвярнуцца да Бога, зьяўляецца: “Божа, я давяраюся Табе!”.

Практыка духоўна-малітоўных сустрэч для непаўнаспраўных паказвае, што людзі, якія сароmeліся ці не ведалі, як сябе паводзіць у царкве, распускаюцца кветкамі для Хрыста, спасьцігаюць Яго праз малітву і евангелізацыю. І так, паступова, на пачатку праз простыя пытаньні, потым праз малітву і Слова Божае, яны прыходзяць да разуменьня Царквы, далучаюцца да яе і становяцца адным целам у Хрысьце.

**Ірына ЛОБАН,** *г.Віцебск*

# Міласэрнасьць у нашым жыцьці

***Якое месца яна займае ў нашым жыцьці? Хтосьці бачыць у гэтым слове адценьне сентыментальнасьці, хтосьці адразу думае: “Гэта не для мяне”. Адзін знаёмы ўзгадаў Маці Тэрэзу, а потым дадаў: “У нас з міласэрнасьцю цяжка, мы ж не ў Калькуце!”***

Як часта мы думаем, што для таго, каб рабіць міласэрныя ўчынкі, трэба шмат выдаткаў і часу, трэба асаблівае месца і абставіны. Хтосьці скажа: “Столькім трэба дапамагаць – і дзецям, і старым! Што я адзін магу зрабіць?” Такі чалавек забываецца, што і мора складаецца з мноства кропелек. Ня можаш зрабіць усё, але можаш пачаць!



Міласэрнасьць нам падаецца чымсьці глабальным і маштабным. Але чаму б не зьвярнуць сваю ўвагу на людзей, якія жывуць побач з табою, якіх ты, магчыма, бачыш штодня? Я вельмі моцна адчула гэта пасьля аднаго яскравага выпадку.

Некалькі месяцаў я думала: трэба пачаць дапамагаць пры Доме інвалідаў, прыдумвала, чым можна было б займацца з гэтымі людзьмі. Але штотыдзень паездка адкладалася: ехаць амаль гадзіну цераз увесь горад, а яшчэ трэба вучыцца, штосьці дапамагчы дома… Калі я ўжо вырашыла, што дапамога там – гэта не для мяне, бо ніяк не дабяруся туды, я сустрэла знаёмую, якая сказала: “Ведаеш, ёсьць адзін малады інвалід, які хоча знайсьці сябра”. Далей адбылося штосьці незвычайнае для мяне: знаёмая назвала яго адрас: маю вуліцу, нумар дома як у мяне!.. Толькі ў яго быў суседні корпус. Дом, дзе жыве гэты хворы хлопец, я кожны дзень бачу ў акно, кожны дзень праходжу каля яго некалькі разоў. Больш таго: я ня раз была ў ім – у сяброўкі. І вось тут, літаральна за 20 метраў ад мяне, жыве чалавек, якому патрэбна дапамога! Колькі б яшчэ часу я магла прыдумваць вялікія планы замест таго, каб паглядзець, што робіцца ў двух кроках ад мяне?..

Потым высьветлілася, што ў 15 хвілінах хадзьбы ад майго дому ёсьць дзіцячы дом, а калі праехаць пяць прыпынкаў, то яшчэ і два інтэрнаты.

Мы думаем, што міласэрнасьць – гэта штосьці вялікае і нам не пад сілу: трэба будзе звадзіць увесь дзіцячы дом ў тэатр, арганізаваць вялікі дабрачынны канцэрт або нават узяць прыёмнае дзіця ў сваю сям’ю… Таму многія баяцца раскрыць сваё сэрца.

Мы памятаем запаведзь: “Любі бліжняга, як самога сябе”, але паняцьце “бліжні” заўсёды ў нашым розуме размываецца. А між тым, бліжні – гэта той, хто ў дадзены момант патрабуе маёй дапамогі. Прытым гэты бліжні можа знаходзіцца вельмі блізка – як ў маім выпадку.

Праявіць міласэрнасьць да бліжняга – гэта падыйсьці да бабулі, якая штодзень сядзіць на лавачцы ля твайго пад’езду адна, бо засталася бяз мужа і дзяцей, і спытацца пра яе здароўе; гэта – схадзіць у краму для дзядулі з другога паверху, які перанёс інсульт; гэта – падараваць пару сваіх цацак, якія даўно проста так ляжаць у шафе, дзецям з беднай сям’і, а разам з гэтым – запрасіць іх на абед або пачастунак. Тое, што для цябе дробязь – камусьці можа даць сілы жыць. Непатрэбная табе рэч можа зрабіць кагосьці шчасьлівым. Кожны, напрыклад, мае старую вопратку, якую ўжо не апранеш, але і выкінуць шкада – аддай яе, ня ўжо ты ня ведаеш чалавека, каму яна патрэбна болей, чым табе?! Зьбяры дзясятак дзіцячых кніжак, якія пыляцца на антрэсолях – і падаруй іх у бліжэйшы дзіцячы дом.

Банальна? Ніколькі. Ёсьць рэчы, якія застаюцца нязьменнымі на працягу гадоў і стагоддзяў. Пра такія ўчынкі кажа і Евангельле: “Праўду кажу вам: як што зрабілі вы гэта аднаму з братоў Маіх меншых, дык зрабілі Мне” (гл. Мц 25:34-40).

Падчас падрыхтоўкі да Вялікадня нас абавязвае пост, міласьціна і малітва. Вялікі пост – гэта цудоўны час, калі ты можаш адкрыць іншым і сабе, якім міласэрным можа быць тваё сэрца. Варта памятаць, што міласьціна – гэта ня толькі грошы, але ўсё, пра што пісалася вышэй. Павер, ты і сам адчуеш сябе такім шчасьлівым ад таго, што можаш падзяліцца з тым, хто ў нястачы, ад таго, што можаш сваімі словамі і ўчынкамі зрабіць сьвет больш добрым! Памятайма таксама, што міласэрнасьць робіць нас падобнымі да нашага Айца, а таму “будзьце міласэрныя, як і Айцец ваш міласэрны” (Лк 6:36).

**Яўгенія ІЗОТАВА,** *г. Віцебск*

д-р Сьвятлана МАРОЗАВА,
праф. ГрДУ імя Я.Купалы

# Ідэя царкоўнай уніі ў грамадзка-палітычным жыцьці Беларусі XV – пачатку XVI ст.

Царкоўны раскол 1054 г. моцна аслабіў хрысьціянства. З кожным стагоддзем паглыблялася прорва паміж праваслаўем і каталіцызмам. Лепшыя розумы, у тым ліку самі лідары Ўсходняй і Заходняй Цэркваў, неаднаразова рабілі спробы пераадолець раскол і аднавіць страчаную еднасьць хрысьціянства. У XIII – XV стст. ранні экуменічны рух увасабляўся ў форме ўсяленскіх (глабальных) царкоўных уніяў, заключаных на ўмовах прызнаньня Ўсходняй Царквой каталіцкай эклезіялогіі і дагматыкі, але пры захаваньні свайго літургічнага абраду. Такімі былі Ліёнская унія 1274 г. і Фларэнцкая унія 1439 г., закліканыя пакласьці канец разьяднаньню хрысьціянскага Ўсходу і Захаду. Іх заключэньня дамагаліся ня толькі рымскія папы, але і візантыйскія імператары, якія разьлічвалі да дапамогу папства і каталіцкай Еўропы ў барацьбе супраць шматлікіх ворагаў Візантыі. Гэтыя уніі аказаліся нетрывалымі, праіснавалі нядоўга, з часам былі адкінутыя большасьцю Ўсходніх Цэркваў іануляваныя.

Раскол 1054 г. зьяўляецца ці не найбольшай недарэчнасьцю сусьветнай гісторыі. Яго наступствы многія стагоддзі адчувалі на сабе розныя народы і краіны, найперш тыя, што знаходзіліся на месцы разлому хрысьціянства – у зоне сустрэчы-сутыкненьня яго ўсходняга і заходняга адгалінаваньняў. Такім народам зьяўляюцца беларусы, якія жывуць на памежжы двух сьветаў: усходне- і заходнеславянскага, у кантактнай зоне дзьвюх цывілізацыяў: праваслаўна-візантыйскай і рымска-каталіцкай. У супрацьстаяньні і пад ціскам праваслаўнага Ўсходу і каталіцкага Захаду нашы продкі стагоддзямі вымушаны былі шукаць сваё месца ў агульнагістарычным працэсе, у тым ліку на царкоўным полі.

Геапалітычная сьпецыфіка Беларусі, дзе з часоў Крэўскай уніі ўсходнехрысьціянскі сьвет сутыкаўся з такім жа хрысьціянскім, толькі ў іншай культурна-рэлігійнай версіі Захадам, і рэлігійны антаганізм паміж пра¬васлаўным і каталіцкім насельніцтвам Вялікага княства Літоўскага, што набіраў моц з канца XIV ст., проста вымагаў пошуку кампрамісаў у канфесійнай сферы, патрабаваў рэлігійна-культурнага дыялогу і ствараў спрыяльную глебу для высьпяваньня і прарастаньня тут уніяцкай ідэі. Гэтая ідэя, шчыльна зьвязаная з праблемай адстойваньня царкоўнага і дзяржаўнага суверэнітэту ВКЛ, то ажывала, то затухала. Яе жывілі тут геапалітычны і экуменічны фактары.

Першы раз пытаньне аб уніі ў ВКЛ было ўзьнята каля 1396 г. Ягайла і Вітаўт прапанавалі дзесьці на іх “рускіх” землях склікаць сабор, які мог бы заняцца пытаньнем рэлігійнага аб’яднаньня хрысьціянскага Ўсходу і Захаду, паколькі ў тагачаснай рэлігійна-палітычнай сітуацыі такі сабор ня мог быць скліканы ні на Захадзе, ні на Ўсходзе [12, с. 36-37]. Са згоды Вітаўта і Ягайлы мітрапаліт “кіеўскі, рускі і літоўскі” Кіпрыян (каля 1336 г. – 16.09.1406, Масква) накіраваў Канстанцінопальскаму патрыярху Антонію IV ліст з прапановай склікаць “на Русі” агульнацаркоўны сабор і дамовіцца пра аб’яднаньне з каталіцкай Царквой. Але патрыярх адхіліў праект Кіпрыяна, спаслаўшыся на неспрыяльную для праваслаўя часіну [11, с. 86-87].

Рост у XIV–XV стст. у геаграфічнай і палітычнай прасторы Еўропы Вялікага Княства Літоўскага, якое ўвабрала ў сябе вялікія абшары беларускіх і ўкраінскіх зямель з хрысьціянізаваным насельніцтвам і царкоўна-ерархічныя структуры значнай часткі Кіеўскай мітраполіі, абумовіла стварэньне ў дзяржаве ў 1415 г. самастойнай Літоўска-Навагрудзкай мітраполіі з мітрапалічай рэзідэнцыяй у Навагрудку. Яна стала буйным усходнееўрапейскім цэнтрам праваслаўя.

Новая мітраполія адразу праявіла цікавасьць да заключэньня ўсяленскай уніі. Яе зьверхнік Рыгор Цамблак быў адным з першых праваслаўных мітрапалітаў, які, ня здраджваючы праваслаўю, намагаўся ўсталяваць кантакт з каталіцкай Царквой. Са згоды вялікага князя літоўскага Вітаўта мітрапаліт Цамблак у 1418 г. узначаліў вялікую дэлегацыю ад ВКЛ на Канстанцкі сабор (1414-1418 гг.) – самы прадстаўнічы царкоўны сабор сярэднявечча. Сярод шматлікіх праблемаў, якія абмяркоўваліся на саборы, зьверхнікі Ўсходняй і Заходняй Царквы выпрацоўвалі ўмовы аб’яднаньня.

На Канстанцкім саборы мітрапаліт Цамблак выступіў з праектам аб заключэньні царкоўнай уніі, які быў падтрыманы Вітаўтам, бо той шляхам уніі жадаў зьнішчыць антаганізм паміж праваслаўным і каталіцкім насельніцтвам княства, што набіраў сілу з часоў Крэўскай і асабліва Гарадзельскай уніі. Пры гэтым літоўска-навагрудзкі мітрапаліт рабіў націск на паразуменьне ў гэтым пытаньні з візантыйскім імператарам і царгарадзкім патрыярхам. Гэта быў першы крок ад таго часу ўжо бесьперапынных – аж да Фларэнцкай уніі 1439 г. – перамоваў аб уніі. Навагрудак, такім чынам, з пачатку XV ст. становіцца генератарам і носьбітам моцных уніяцкіх тэндэнцыяў і можа лічыцца радзімай уніяцкай ідэі ў ВКЛ.

У царкоўна-рэлігійным жыцьці Вялікага Княства Літоўскага і Ўсходняй Еўропы XIV–XV стст. гэтаму беларускаму гораду належала вялікая, а нярэдка і вызначальная роля. Валянцін Пікуль, расейскі гісторык і раманіст, пісаў пра сярэднявечную Беларусь: “Калі б беларусы змаглі прыўзьняць гістарычную заслону мінулага, то … свае гістарычныя цэнтры Полацак і Навагрудак яны паставілі б паводле гістарычнага рэйтынгу і ўплыву ў Еўропе на першае месца ў XI – XII – XV стагоддзях” [3, с. 7].

Ад мітрапалітаў Кіпрыяна і Рыгора Цамблака ідэю і справу царкоўнай уніі пераняў смаленскі япіскап Герасім, у 1432 г. быў вылучаны на мітрапалічы пасад вялікім князем літоўскім Сьвідрыгайлам і зацьверджаны Царгарадам. Герасім меў тытул “мірапаліт кіеўскі і ўсяе Русі”, аднак улада яго абмяжоўвалася тэрыторыяй ВКЛ і некаторымі прылеглымі ўсходнеславянскімі землямі. Рэзідэнцыяй гэтага мітрапаліта быў Смаленск.

Рымскі папа Яўген IV спадзяваўся з дапамогай Герасіма заключыць унію з праваслаўнай Царквой ВКЛ [2]. Захаваліся папскія булы Яўгена IV, які даваў Герасіму паўнамоцтвы склікаць у ВКЛ сабор у справе уніі, бо патрыярхат у Царградзе толькі



• *Дыскусія папы, кардыналаў і біскупаў на саборы. (З Хронікі Канстанцкага сабору Ульрыха Рыхенталя).*



• *Мітрапаліт Кіеўскі Кіпрыян Цамблак.*

тады праяўляў схільнасьць да абʼяднаньня, калі яму пагражалі туркі [7, с. 177].

Сьвідрыгайла ўхваляў уніяцкія схільнасьці Герасіма, але ў 1435 г. западозрыў яго ў палітычнай здрадзе і загадаў пакараць сьмерцю. Мітрапаліт быў публічна спалены на вогнішчы ў Віцебску.



• Від Фларэнцыі ў 1490 г. на старажытнай гравюры.

У сярэдзіне 1430-х гадоў кіруючыя колы Візантыйскай імперыі праявілі гатоўнасьць падпісаць унію з Рымам. Візантыйскі імператар Ян VIII Палеолаг і царгарадзкі патрыярх Язэп II спадзяваліся ў абмен на саступку ў дагматыцы атрымаць дапамогу каталіцкай Еўропы ў змаганьні з турэцкай пагрозай для абароны імперыі. Удзел вялікай усходнеславянскай Царквы ў задуманым грэкамі зьяднаньні Цэркваў забясьпечваўся прызначэньнем у 1436 г. на Кіеўскую мітраполію (тады яшчэ адзіную для Вялікага Княства Літоўскага і Вялікага Княства Маскоўскага) свайго суайчыньніка Ісідара (1380/1390 г., Тэсалонікі – 27.04.1463, Рым), вядомага сваімі сімпатыямі да ідэі уніі. З дапамогай яго высокай адукаванасьці грэкі спадзяваліся дамагчыся падпісаньня уніі з лацінянамі на годных умовах.

Па даручэньні візантыйскага імператара Ісідар ужо ўдзельнічаў у перамовах аб зьяднаньні Цэркваў на Базэльскім саборы (1431-1437 гг.). Вынікам гэтых перамоваў зьявілася скліканьне Фларэнцкага сабора, які павінен быў пакласьці канец разьяднанасьці хрысьціянскага Ўсходу і Захаду.

У 1436 г. Ісідар быў высьвячаны царгарадзкім патрыярхам Язэпам II у сан кіеўскага мітрапаліта замест спаленага на загад Сьвідрыгайлы мітрапаліта Герасіма.

2 красавіка 1437 г. ужо з мандатам прадстаўніка Рускай (усходнеславянскай) Царквы на будучы ўсяленскі сабор Ісідар прыбыў з Царгарада ў Маскву і адразу пачаў зьбірацца ў дарогу. Давяраючы вучонаму і аўтарытэтнаму грэку, вялікі князь маскоўскі Васіль II адправіў яго на сабор са шматлікай сьвітай, адпаведна годнасьці сваёй дзяржавы: пасольства са ста чалавек, абоз з двухсот коней [9, с. 111].

Сабор, на якім меркавалася заключыць унію, быў скліканы ў 1438 г. у Фэрары папам Яўгенам IV. На працягу красавіка – кастрычніка праводзіліся папярэднія прыватныя нарады і перамовы паміж прадстаўнікамі лацінскай і грэцкай партыяў. Сабор урачыста адкрыўся 8 кастрычніка 1438 г. Паколькі ў Фэрары лютавала эпідэмія і ў сувязі з фінансавымі цяжкасьцямі ў лютым 1439 г. сабор перанесьлі ў Фларэнцыю.

Удзельнікі сабора падзяліліся на 2 лагеры: супернікі і прыхільнікі уніі. Доўга ішлі дагматычныя дыскусіі, у якіх адзін бок дарэмна чакаў саступак ад іншага. На саборы самымі дзейнымі прыхільнікамі уніі з Рымам аказаліся нікейскі мітрапаліт Вісарыён і кіеўскі мітрапаліт Ісідар, які быў прадстаўніком праваслаўнай Царквы ўсяе Русі, г. зн. Русі Маскоўскай і Русі Літоўскай. Апазіцыю уніі ўзначальваў эфэскі мітрапаліт Мануіл (Марк) Яўгенік.

Ісідару прыпісваюць ролю аднаго з ініцыятараў і галоўнага арганізатара Фларэнцкай уніі. Будучы патрыётам Візантыйскай імперыі, ён ня бачыў іншага спосабу яе выратаваньня ад турак як шляхам атрыманьня дапамогі каталіцкага Захаду. Разам з нікейскім мітрапалітам Вісарыёнам ён пераканаў падпісаць унію візантыйскага імператара Яна VIII Палеолага і царгарадзкага патрыярха Язэпа II. Удзельнік сабора мятонскі біскуп Язэп пісаў, што Ісідар першы пачаў даказваць неабходнасьць прыняцьця уніі на ўмовах, прапанаваных папам, і рашуча паўплываў у гэтым на імператара, карыстаючыся сваім вялікім аўтарытэтам. Рускае “Слово о составлении осьмаго собора” усю віну за унію ўскладае на Ісідара: «Царя обольстил еси, патриарха смутил еси и царствующий град погибели исполнил еси» [6, с. 353].

5 ліпеня 1439 г. быў падпісаны акт уніі. З каталіцкага боку свае подпісы пад ім паставілі папа Яўген IV, 143 кардыналы, прымасы, біскупы і архібіскупы, з праваслаўнага – візантыйскі імператар Ян VIII і 18 мітрапалітаў. Подпіс патрыярха Язэпа II у акце уніі адсутнічае, бо ён памёр 10 чэрвеня 1439 г. Але ён пакінуў дакумент, у якім засьведчыў сваю згоду [4, с. 340]. Пад актам уніі стаіць подпіс Ісідара: «Подписуюсь с любовью и одобрением». 6 ліпеня адбылося ўрачыстае абвяшчэньне аднаўленьне еднасьці хрысьціянаў Усходу і Захаду ў адной Царкве.

У адпаведнасьці з Фларэнцкай дамовай, Царгарадзкая Царква разам з даччынымі Цэрквамі злучалася з Рымам. Лаціняне і грэкі ядналіся ў адзінай Хрыстовай Царкве на роўных умовах. Праваслаўныя прызнавалі шэраг каталіцкіх дагматаў, у тым ліку “філіоквэ” (у кампрамісным варыянце), пры захаваньні сваёй абраднасьці і богаслужэньня на грэцкай, царкоўнаславянскай і інш. мовах, шлюбу сьвецкага духавенства, магчымасьці для сьвецкіх людзей атрымліваць сьв. Прычасьце пад выглядам ня толькі хлеба, але і віна і г. д.

Напрыканцы 1439 г. Ісідар адправіўся ў зваротны шлях у сваю мітраполію, які ляжаў праз Венецыю – Харватыю – Заграб – Буду – Кракаў у Вялікае Княства Літоўскае і ў Маскоўскую дзяржаву. З вугорскай сталіцы Буды ў пачатку 1440 г. ён разаслаў ва ўсё падпарадкаваныя яму япархіі Маскоўскай дзяржавы, ВКЛ, Польшчы, Лівоніі афіцыйныя пастырскія пасланьні, у якіх абнародаваў факт зьяднаньня Цэркваў і ўсталяванае на саборы ў Фларэнцыі раўнапраўе ўсходняга і заходняга абрадаў. Яго пасланьне адрасавалася «ўсім людзям, што хрысьціянамі называюцца – лацінянам і грэкам, і ўсім тым, хто належыць да саборнай царквы Канстанцінопальскай, гэта значыць, русінам, сербам, валохам ды ўсім іншым родам хрысьціянскім» і заклікала гэтыя Цэрквы Ўсходняй Еўропы «прыняць гэтае сьвятое і найсьвяцейшае зьяднаньне з вялікай духоўнай радасьцю і пашанаю» ды вызнаць узаемна сапраўднасьць сьвятых Тайнаў [5, с. 60].

У 1440-1441 гг. дзейнасьць мітрапаліта Ісідара праходзіла ў Польшчы, ВКЛ, Маскоўскай дзяржаве. У Кракаве, на Вавелі, у гонар Ісідара быў зладжаны ўрачысты прыём, адбылася сустрэча з польскім каралём. Тут ён адслужыў візантыйскую літургію ў каталіцкім храме. Далей на яго шляху былі Перамышаль, Холм, Львоў, дзе ён зьдзяйсьняў урачыстую літургію і абвяшчаў акт Фларэнцкай уніі. Тут дзейнасьць мітрапаліта не сустрэла цяжкасьцяў, якія сталі зьяўляцца па меры яго перасоўваньня ў паўночным і ўсходнім кірунках.

На працягу шасьці месяцаў (са жніўня 1440 г.) Ісідар знаходзіўся ў ВКЛ. Ён быў прыязна прыняты ў Смаленску і Полацку, наведаў праваслаўных вернікаў у Вільні, Тураве ды іншых гарадах. Таксама Ісідар прызначыў біскупа ўладзімірскага і берасьцейскага Данілу, які пазьней зрокся яго. А 5 лютага 1441 г. ён прыехаў у Кіеў, дзе абвясьціў акт Фларэнцкай уніі ў саборы сьв. Сафіі. Праваслаўная шляхта ВКЛ добразычліва прымала Ісідара. Граматай князя Аляксандра Алелькі былі афіцыйна прызнаныя прывілеі і паўнамоцтвы Ісідара як мітрапаліта. Затое віленскі каталіцкі біскуп не пажадаў вызнаць сапраўднасьць сьв. Тайнаў у праваслаўных і не дазволіў Ісідару абнародаваць акт Фларэнцкай уніі ў сталіцы княства.

Справа ў тым, што каталіцкія ярархі і шляхта ў ВКЛ і Польшчы тады не асабліва жадалі уніі. Неадназначным было стаўленьне да яе ў 1430-1440-ыя гг. і ва ўрадавых колах Польшчы і ВКЛ. Гэта з большага тлумачыцца і тым, што з двух тагачасных папаў: арганізатара Фларэнцкага сабора Яўгена IV і абранага яго апанентамі на Базэльскім саборы Фелікса V (*антыпапа ў 1439-1449 гг. – Рэд.*), адныя дзяржаўныя мужы не прызнавалі ні таго, ні другога; іншыя ж, а таксама большасьць каталіцкіх ярархаў ВКЛ і Польшчы вызнавалі Фелікса V.

Працяг на с.14 ⇨

# Ідэя царкоўнай уніі ў грамадзка-палітычным жыцьці Беларусі XV – пач. XVI ст.

⇨ Пачатак на с. 12-13

Найбольшым посьпехам дзейнасьці Ісідара ў Польшчы і ВКЛ было выданьне каралём Уладзіславам у 1443 г. прывілея аб ураўнаньні ў правах і прывілеях духавенства абодвух абрадаў у адпаведнасьці з пастановамі Фларэнцкага сабора. Але гэты прывілей застаўся толькі на паперы і ня стаў абавязковай нормай.

У параўнаньні са спакойнай рэакцыяй на Фларэнцкі сабор і унію ў беларуска-ўкраінскіх землях у Маскоўскай дзяржаве на гэтае зьяднаньне адрэагавалі бурна і варожа. Яно было ўспрынята як здрада праваслаўнай веры візантыйскім імператарам, царгарадзкім патрыярхам і прагнымі да грошай грэкамі. Акты Фларэнцкага сабора былі названыя некананічнымі. Вялікі князь маскоўскі Васіль II не жадаў дапусьціць царкоўнага аб'яднаньня Ўсходу і Захаду ў сваёй дзяржаве, бо яно перашкаджала яму ва ўсталяваньні абсалютнага адзінаўладдзя. Да прыезду Ісідара ў Маскву 19 красавіка 1441 г. Васіль II і праваслаўная ярархія з разанскім біскупам Ёнам на чале прасякліся рашучасьцю зрачыся здрадніка-мітрапаліта Ісідара. Яго, непахіснага прыхільніка уніі, яны абвясьцілі зрынутым з мітрапалічае пасады і заключылі ў манастырскую турму. Адтуль мітрапаліту Ісідару ўдалося 15 верасьня 1441 г. зьбегчы ў ВКЛ, дзе ў Навагрудку ён сустрэўся з вялікім літоўскім князем Казімірам. Пасьля гэтага ён вырашыў накіравацца ў Рым. Ісідар меў цьвёрды намер аднавіць сваю ўладу над усёй Рускай Царквой, вярнуцца на Русь і там завяршыць справу уніі. Але наступныя рэлігійна-палітычныя падзеі перакрэсьлілі яго планы.

Сваёй дзейнасьцю на карысьць уніі, якая адбывалася без узгадненьня з Вільняй і насуперак жаданьню Масквы, Ісідар на многія гады вызначыў лёс беларуска-ўкраінскай Царквы і ўсёй Усходняй Эўропы. З пункту гледжаньня ўдзелу ў падрыхтоўцы, заключэньні і рэалізацыі Фларэнцкай уніі Кіеўскі мітрапаліт Ісідар выступае важнай асобай сусьветна-царкоўнай гісторыі.

У наступныя гады ў Маскве зьявілася мноства палемічных твораў, якія падступству грэцкага патрыярха і візантыйскага імператара, што пайшлі на унію з лацінянамі, супрацьпастаўлялі непахісную праваслаўную веру маскоўскага князя. Аўтары гэтых твораў тлумачылі падзеньне ў 1453 г. пад ударамі турак Візантыйскай імперыі, згубу "царствующего града" (Царграда) іх адрачэньнем ад сваёй веры. Распрацаваная Філафеем Пскоўскім тэорыя "Масква – трэці Рым" засноўвалася на супрацьстаяньні дзьвюм тэзам: пра здраду грэцкай веры на Фларэнцкім саборы і паразу грэцкай зброі ў 1453 г. пад другім Рымам – Царградам.

Блізкае суседзтва і дачыненьні беларускіх зямель з лацінскім Захадам, знаёмства і далучэньне да сістэмы яго каштоўнасьцяў праз традыцыйныя палітычныя і культурныя сувязі з Польшчай, актыўнае збліжэньне з заходнехрысьціянскай культурай, міжканфесійныя шлюбы выпрацавалі сьпецыфічны, адметны ад маскоўскага, менталітэт беларуска-ўкраінскага праваслаўя. Яму ўласьцівы здольнасьць лавіраваць паміж Царградам і Рымам, гатоўнасьць пэўных колаў да дыялогу і кампрамісу на годных умовах, урэшце, папулярнасьць ідэі хрысьціянскага адзінства [10, с. 43-44]. Адсутнасьць шырокіх кантактаў з каталіцкім сьветам абумовіла лацінафобію маскоўскай знаці і духавенства.

15 сьнежня 1448 г. сабор рускіх япіскапаў упершыню бяз санкцыі царгарадзкага патрыярха – бо ён прыняў унію – узьвёў на мітрапалічы пасад даўно ўжо намечанага на гэтую пасаду разанскага япіскапа Ёну. Гэтая падзея стала пачаткам аўтакефальнага існаваньня Рускай Праваслаўнай Царквы, якая, па словах яе гісторыка А.Карташава, «отрешилась от трусливого канонического предрассудка», быццам яна ня можа пачаць самастойнае, незалежнае ад Канстанцінопаля існаваньне [6, с. 362]. Дзесяць гадоў Ёна кіраваў мітраполіяй "всея Руси"", г. зн. яе абедзьвюма часткамі: маскоўскай і літоўскай.

Рым, хоць і ня цешыў сябе ілюзіяй адносна будучыні Фларэнцкай уніі ў Маскоўскай дзяржаве, не прызнаў маскоўскага рашэньня, лічыў мітрапаліта Ісідара законным першаярархам Русі, а Ёну – узурпатарам. У Рыме не гублялі надзеі аднавіць уладу Ісідара над той часткай Кіеўскай мітраполіі, якая ўваходзіла ў склад ВКЛ. У 1458 г. папа Каліст III дамогся згоды вялікага князя літоўскага Казіміра на адыманьне літоўскай часткі мітраполіі ад Ёны і перадачы яе Ісідару.

Ісідар у той час быў ужо стары і на кіеўскі мітрапалічы пасад не вярнуўся. Папа пакінуў яму тытул мітрапаліта маскоўскага з намінальнай уладай над япархіямі Маскоўскай Русі. А для фактычнага кіраваньня праваслаўнай Царквой ВКЛ у 1458 г. царгарадзкі патрыярх-уніят Рыгор III Мамма, які быў выгнаны грэкамі з Царграда за прыняцьце Фларэнцкай уніі і знайшоў прытулак у Рыме, са згоды папы Каліста III высьвяціў зьверхнікам Рускай Царквы вучня, паплечніка і пераемніка Ісідара, удзельніка Фларэнцкага сабора Рыгора II Балгарына (? – 1474 г.). Яму, ураджэнцу Балгарыі, былі падпарадкаваныя 6 япархіяў у ВКЛ і 3 – у Кароне. 11 верасьня 1458 г. на гэтай пасадзе Рыгора II Балгарына зацьвердзіў сваёй граматай папа Пій II.

Вынікам Фларэнцкай уніі было тое, што папы рымскія сталі прымаць непасрэдны ўдзел у справах Рускай (усходнеславянскай) Царквы, і гэта – з пераменным посьпехам – мела месца да пачатку XVI ст. Але гэта на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў рабіла нявызначаным юрысдыкцыю і статус Кіеўскай мітраполіі.

Па прыбыцьці ў Вільню і Наваградак мітрапаліт Рыгор Балгарын прывёз вялікаму літоўскаму князю Казіміру ліст ад папы рымскага, у якім гаварылася, што ўсе рускія ў яго каралеўстве адбіраюцца ад "злочестивого монаха Ионы" і перадаюцца мітрапаліту-ўніяту Рыгору. Яго прыезд у ВКЛ унёс новы парадак у царкоўнае жыцьцё краіны.

Са свайго боку, Ёна выступіў супраць Рыгора і неаднаразова, хоць і беспасьпяхова, імкнуўся распаўсюдзіць сваю ўладу на япархіі ў ВКЛ. Ён разаслаў пасланьне да ўсіх япіскапаў ВКЛ, пераконваючы іх не прызнаваць мітрапаліта-ўніята і яму не падпарадкоўвацца. З дзевяці ўладык тых япархіяў толькі Яўхім, япіскап чарнігаўскі і бранскі, адгукнуўся на заклік Ёны – не прызнаў новага мітрапаліта і ў 1464 г. зьехаў у Маскву, кінуўшы сваю япархію. Прыняцьце мітрапаліта-ўніята астатнімі япіскапамі сьведчыла пра іх імкненьне да незалежнасьці ад Масквы.

Памкненьні мітрапаліта Рыгора Балгарыновіча распаўсюдзіць сваю кананічную ўладу над усёй тэрыторыяй былой Кіеўскай Русі і спробы пашырыць унію выклікалі рэзкі пратэст Масквы. Для яе Рыгор Балгарын, як і яго папярэднік Ісідар, быў сымбалем інтрыгі грэкаў, якія ў Фларэнцыі выявілі сваё агульнасьць з "лацінскай гарэзіяй". Скліканы Ёнам у 1459 г. сабор япіскапаў у Маскве склаў саборную пастанову супраць Рыгора Балгарыновіча. Летапісец канстатаваў: «И оттоле разделися митрополия: король сего прия Григория, а князь велики [московский] не восхоте; и оттоле сотворишася два митрополита на Руси, един на Москве, а вторый в Киеве» [9, с. 115].

У лісьце Казіміру IV маскоўскі князь прасіў яго не прымушаць праваслаўнае насельніцтва ВКЛ падпарадкоўвацца Рыгору. У сваім лісьце ў адказ Казімір запрашаў Васіля прызнаць і прыняць Рыгора мітрапалітам у Маскве замест састарэлага мітрапаліта Ёны. Гэтую прапанову Васілю і яго сыну Івану III Казімір рабіў неаднаразова, але безвынікова. Пасьля сьмерці ў 1461 г. мітрапаліта Ёны яго пераемнік Феадосі пачаў ужываць скарочаны тытул "мітрапаліт усяе Русі" (без "кіеўскі"), верагодна, канчаткова зьмірыўшыся з стратай беларускіх і ўкраінскіх япархіяў.

Такім чынам, Фларэнцкая унія 1439 г. шмат у чым вызначыла наступны лёс усходнеславянскай Царквы і ўсяго ўсходу Эўропы. Адным з яе наступстваў было самастойнае, бяз санкцыі Царграда, што "запляміў" сваю веру, прыняўшы "папскія гарэзіі", абраньне ў 1448 г. свайго мітрапаліта ў Маскве і канчатковы падзел у 1458 г. праваслаўнай Царквы Ўсходняй Эўропы на 2 часткі: на Кіеўскую і Маскоўскую мітраполіі.

Нягледзячы на намаганьні мітрапаліта Рыгора Балгарына, праваслаўнае духавенства і вернікі ВКЛ не прынялі унію. У 1469 г. ён сам вымушаны быў адмовіцца ад уніі і быў зацьверджаны ў сане праваслаўнага мітрапаліта кіеўскага, галіцкага і

ўсяе Русі царгарадзкім патрыярхам Дыянісіем, які, такім чынам, не прызнаў самаабвешчанай фактычнай аўтакефаліі Маскоўскай мітраполіі. У адказ Масква разарвала адносіны і з Царгарадзкай патрыярхіяй, і з Кіеўскай мітраполіяй. Іван III загадаў не ўпускаць у маскоўскія абшары пасланьнікаў і мітрапаліта Рыгора, і царгарадзкага патрыярха. Ноўгарад, які рызыкнуў заявіць пра свой пераход пад юрысдыкцыю кіеўскага мітрапаліта Рыгора, Іван III у 1471 г. проста раздушыў вайсковай сілай і назаўсёды ануляваў федэратыўныя ноўгарадзкія вольнасьці [6, с. 548]. У канцы XV ст. у архірэйскую прысягу ў Маскоўскай мітраполіі было ўведзена абяцаньне адрачыся ад Ісідара і Рыгора Балгарына і ад усіх – пасьля іх, «кому случится придти на Киев от Рима латинского или от Царьграда турецкия державы».

Хоць спробы рэалізацыі Фларэнцкай уніі ў Кіеўскай мітраполіі на землях Беларусі скончылася правалам, аднак вызначылі тут устойлівую ўніяцкую традыцыю на працягу XV – пачатку XVI стст. Гэтая сталая цікавасьць да ідэі царкоўнай уніі крыецца ў геапалітычным становішчы Беларусі і Ўкраіны паміж хрысьціянскім Усходам і Захадам, якое на працягу стагоддзяў абумоўлівала неабходнасьць вырашэньня двух актуальных для дзяржавы задач: захаваньня і ўмацаваньня дзяржаўна-палітычнай і рэлігійна-культурнай незалежнасьці. Пяцёра з дзевяці мітрапалітаў ВКЛ, што ўзначальвалі праваслаўную Царкву ў XV ст., былі ўніятамі або прыхільнікамі Фларэнцкай уніі (Рыгор Цамблак, Ісідар, Рыгор Балгарынавіч, Місаіл Пестручэй, Язэп Балгарынавіч) [1, с. 35]. Яе падтрымлівалі вялікія князі літоўскія Казімір IV і Аляксандар. Таксама і ў другой палове XV ст. кіеўскія мітрапаліты, як уяўляецца, усё яшчэ не прызнавалі катэгарычнага канфесійнага размежаваньня, хоць у вачах і Рыма, і Царграда іх прымірэньне, дасягнутае на Фларэнцкім саборы, ужо ня дзейнічала.

Пасьля сьмерці Рыгора Балгарына (пахаваны ў Навагрудку), аднаго з першых праўнійных дзеячаў праваслаўнай Царквы ў ВКЛ, мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі быў абраны ў 1475 г. смаленскі япіскап, ураджэнец м. Чарэя (цяпер у Чашніцкім раёне) Місаіл, які таксама падтрымліваў ідэю царкоўнай уніі. Але ён ня быў зацьверджаны царгарадзкім патрыярхам, які не ўхваляў яго зносінаў з Рымам. Рэзідэнцыяй Місаіла быў Навагрудак – царкоўная сталіца ВКЛ у XIII – XV ст.

Місаіл у 1476 г. арганізаваў зварот вышэйшага праваслаўнага духавенства Кіеўскай мітраполіі і сьвецкіх асобаў да папы рымскага Сікста V. Пад гэтым зваротам-эпісталай акрамя яго ўласнага аўтографа стаялі подпісы архімандрытаў Кіева-Пячорскага манастыра Івана і Сьвята-Траецкага манастыра ў Вільні Макарыя, а таксама 13 прадстаўнікоў беларуска-ўкраінскай шляхты (князёў Міхаіла Алелькавіча, Фёдара Бельскага, Дзьмітрыя Вяземскага, намесьніка віцебскага Івана Хадкевіча і інш.).

Пасланьне напісана шматслоўна і мудрагеліста. У ім выказвалася гатоўнасьць прыняць унію, утрымліваліся скарга на лацінскае духавенства ВКЛ і Польшчы, якое крыўдзіць Рускую Царкву і вінаваціць усходніх хрысьціянаў у гарэзіі, і просьба зраўнаць іх з рыма-каталікамі.

Пасьля панегірыка ў гонар папы выказана бачаньне рэлігійнай згоды паміж хрысьціянскім Захадам, з яго дактрынаю папства, і Ўсходам. У пасланьні адстойвалася ідэя, што "няма адрозьненьняў у Хрысьце паміж грэкамі і рымлянамі", але кожны закліка1ы жыць у адпаведнасьці са сваёй традыцыяй. Відавочным і дэкларатыўна шчырым зьяўляецца прызнаньне папскага вяршэнства над Кіеўскай мітраполіяй. Ухвалены таксама Фларэнцкі сабор і "філіоквэ".

Мяркуюць, што гэты ліст з прапановай царкоўнай уніі быў накіраваны папе рымскаму ад імя япіскапата і шляхты наваградзкім саборам. Ліст яму перадалі праз папскага легата Антоніа Банумбрэ, які ўдзельнічаў у саборы.

Ліст застаўся без адказу папы. Ствараецца ўражаньне, што ў канцы XV ст. у Рыме сталі звыкацца з думкай аб бесьперсьпектыўнасьці Фларэнцкай уніі на беларуска-ўкраінскіх землях і з недаверам ставіліся да ўсіх пасьпешных планаў новай уніі.

Гэты ліст упершыню быў апублікаваны ў 1605 г. мітрапалітам Іпаціем Пацеем, які ў пачатку XVII ст. выкарыстоўваў яго дзеля прапаганды ідэі ўніі. Асобныя дасьледчыкі падвяргалі сумневу аўтэнтычнасьць гэтага ліста, сьцьвярджалі пра магчымасьць яго фальсіфікацыі ў пачатку XVII ст., верагодна, І.Пацеем. Адказам праваслаўнага боку на апублікаванае Пацеем пасланьне мітрапаліта Місаіла да папы стаў вядомы палемічны твор "Пересторога".

У 1498-1501 гг. на мітрапалічай катэдры ў Наваградку знаходзіўся Язэп І Балгарынавіч, прыхільнік далучэньня праваслаўнай Царквы ВКЛ да Фларэнцкай уніі. Ён паходзіў з шляхецкага роду Балгарынавічаў, зьяўляўся блізкім сваяком Івашкі Сапегі, пісара вялікага літоўскага князя Аляксандра і меў родавы маёнтак у Слуцкім павеце. Да пастаўленьня на мітраполію быў зьверхнікам слуцкага Траецкага манастыра, потым – смаленскім япіскапам.

У 1497 г. Язэп І Балгарынавіч, верагодна, зьвярнуўся да царгарадзкага патрыярха Ніфанта II з лістом, просячы яго выказаць сваё меркаваньне пра Фларэнцкую унію. У зваротным лісьце ад 5 красавіка 1497 г., аўтэнтычнасьць якога, аднак, ставіцца некаторымі дасьледчыкамі пад сумнеў, Ніфант заклікаў літоўска-наваградзкага мітрапаліта трымацца уніі, але захоўваць пры гэтым усе ўсходнія традыцыі. Адказ Ніфанта, арыгінал якога згублены, упершыню апублікаваў у 1617 г. Леў Крэўза у польскім перакладзе ў сваім творы "Абарона еднасьці царкоўнай".

Толькі праз 2 гады, 10 мая 1500 г., Язэп Балгарынавіч быў зацьверджаны на Кіеўскай мітраполіі царгарадзкім патрыярхам Якімам І. Той ня мог ня ведаць пра тое, што кіеўскі мітрапаліт Язэп Балгарынавіч цікавіўся правамоцнасьцю Фларэнцкай уніі, верагодна, з намерам весьці праўнійную дзейнасьць. Гэта, аднак, не перашкодзіла патрыярху зацьвердзіць яго ў сане. З гэтага можна меркаваць, што стаўленьне Царграда да уніі не было тады такім ужо варожым.

У той час рэлігійная палітыка афіцыйных уладаў ВКЛ выклікала асуджэньне ў Маскоўскай дзяржаве. У сувязі з палітычнымі амбіцыямі, хоць і не бяз пэўных падставаў, Масква абвінаваціла ўлады ВКЛ у парушэньні рэлігійных свабодаў усходніх хрысьціянаў, маючы на ўвазе найперш выпадак з дачкой вялікага маскоўскага князя Івана III Аленай, якую нібыта мітрапаліт Язэп прымушаў перайсьці на унію (або ў лацінскі абрад) пасьля яе замужжа з вялікім князем літоўскім Аляксандрам. Маскоўская дзяржава, якая вясной 1500 г. пачала вялікі наступ на ВКЛ, выкарыстала гэтую рэлігійную праблему як нагоду, даказваючы, што абавязкам Масквы ёсьць абарона аднаверцаў, якіх мітрапаліт Язэп Балгарынавіч па ўказаньні кіраўніка ВКЛ нібы прымушаў скарыцца Рыму.

Вялікі князь літоўскі Аляксандар, які імкнуўся ўмацаваць сваю ўладу шляхам увядзеньня канфесійнай гармоніі і парытэту паміж усходнім і заходнім хрысьціянствам, нягледзячы на моцныя антырускія настроі, якія панавалі сярод лацінскага духавенства на падпарадкаваных яму тэрыторыях, заахвочваў дзейнасьць мітрапаліта на карысьць царкоўнай еднасьці. 20 студзеня 1499 г. ён выдаў грамату, якой гарантаваў юрысдыкцыю мітрапаліта, епіскапаў і іх царкоўных судоў ва ўсіх кананічных спрэчках, і абавязваў падаваць у мітрапалічы суд скаргі на католікаў або праваслаўных, што ўчыняюць гвалт над "рускімі" сьвятарамі.

Падтрыманы вялікім князем, мітрапаліт Язэп, як і яго папярэднік Місаіл, 20 жніўня 1500 г. напісаў пасланьне да папы рымскага Аляксандра VI. У ім ён прызнаваў папскую ўладу і сымбаль веры, згодна з дэкрэтамі Фларэнцкага сабора, уключаючы "філіоквэ". Гэтым пасланьнем мітрапаліт шукаў шляхоў паляпшэньня лёсу сваёй паствы, уцісканай рыма-католікамі. Дэлегацыя з пасланьнем мітрапаліта Язэпа, якую вялікі князь Аляксандар накіраваў у Рым з мэтай перамоваў аб стварэньні кааліцыі хрысьціянскіх дзяржаваў супраць Турцыі і Крымскага ханства, прыбыла туды 11 сакавіка 1501 г. У складзе гэтага пасольства, якое ўзначальваў Эразм Цёлэк, быў прадстаўнік "рускай" Царквы Іван Сапега. У Рыме Цёлэк, які па сутнасьці выступаў ад імя віленскага рымска-каталіцкага біскупа Войцеха Альберта Табара, вёў перамовы і меў дзьве прыватныя аўдыенцыі ў папы. Цёлэк даў зразумець, што лічыць недарэчным пасылаць папскую місію на рускія землі для афіцыйнага ўзнаўленьня Фларэнцкай уніі.

Працяг на с.16 ⇨

а. доктар Георгі АВАКУМАЎ

# Тоеснасьць і Пасланьне грэка-каталіцкай Царквы:

## КАНФЕСІЯ, ЯКАЯ РАЗБУРАЕ КАНФЕСІЙНЫ СЬВЕТ

Кожная спроба пачаць гаворку пра Пасланьне грэка-каталіцкай Царквы для хрысьціянскага сьвету натыкаецца на неабходнасьць карыстацца тэрмінамі, якія зьяўляюцца ў найбольшай ступені шматзначнымі. Тэрмін "грэка-каталіцкі" ўказвае на неразрыўную еднасьць з абедзьвюма канфесійнымі азначэньнямі: "каталіцкі" і "праваслаўны". Такім чынам, калі ўвогуле грэка-каталіцкая Царква можа несьці нейкае пазітыўнае "Пасланьне" сёньняшняму сьвету, то яно ў вачах шматлікіх хрысьціянаў, разглядаецца выключна ў персьпектыве служэньня праваслаўна-каталіцкаму дыялогу. Але, тым ня менш, кожны, хто хаця б крыху меў справы з гісторыяй багаслоўя і Царквы, ведае, наколькі шматслойнымі ды комплекснымі зьяўляюцца такія канфесійныя тэрміны, як "каталіцкі" і "праваслаўны". З абодвума багаслоўскімі паняцьцямі старажытнай Царквы на працягу апошніх двух стагоддзяў адбыліся адчувальныя зьмены, у выніку якіх яны выйшлі па-за ўласныя патрыстычныя карані, спачатку стаўшы на службу канфесійнай палітыцы вялікіх еўрапейскіх краінаў 18-19 стст., такіх як Аўстра-Вугорская імперыя і Расейская царская імперыя, ды прывёўшы напрыканцы 20 ст. ажно да планетарна-палітычнай рэвальвацыі ў сэнсе азначэньняў культурнай прасторы, як, напрыклад, паводле нядаўна памёрлага амерыканскага палітолага Самуэля Гантынгтана *(Samuel Huntington)* і новага расейскага еўразіста і геапалітыка Аляксандра Дугіна. Эвалюцыя гэтага тэрміну пачынаецца з сукупнасьці нацыянальна-канфесійных ідэяў і рэалізуецца ў сьвеце постмадэрнова акрэсьленых канфесіяў пачатку трэцяга тысячагоддзя.

"Каталіцкі і праваслаўны", "Царква Захаду ды Царква Ўсходу", ды яшчэ шырэй: "Захад і Ўсход", "заходняе і ўсходняе хрысьціянства" – гэта вечная тэма хрысьціянскай багаслоўскай і царкоўна-гістарычнай думкі, як таксама і вечная тэма гістарычнага дасьледаваньня культурнай напружанасьці на тэрыторыях хрысьціянства. Бяскрайняе мора літаратуры на гэтыя тэмы напісана і пішацца сёньня, асабліва ў сувязі з экуменічнай праблематыкай. Тэарэтычнаму пастуляту пра супярэчнасьць паміж Усходам і Захадам адпавядае ўзаемаўспрыманьне бакоў у **штодзённым жыцьці**. Словы "праваслаўны" і "каталіцкі" зьяўляюцца, такім чынам, ня толькі багаслоўскімі і царкоўна-гістарычнымі паняцьцямі, але перадусім **азначэньнямі тоеснасьці,** якімі аперуюць з абодвух бакоў, каб правесьці межы сваёй уласнай тоеснасьці і захаваць сябе ад "чужой".

Такая самасьвядомасьць сучасных "каталіцкіх" і "праваслаўных" хрысьціянаў укаранёная ў доўгай гісторыі канфесіяналізацыі. Тэрміны "канфесія" і "канфесійнасьць" зьяўляюцца, як вядома, "спадчынай лютэраўскай Рэфармацыі". Іхні пачатак, такім чынам, можна знайсьці ў рэлігійных хваляваньнях 16 ст. Прыкладна ў сярэдзіне 19 ст. у нямецка-лютэранскім кантэксьце ўсплывае ўпершыню слова "канфесійнасьць", якое ўказвае на падкрэсьленае адмежаваньне ад "чужых" царкоўных супольнасьцяў на аснове ранне-рэфарматарскіх веравызнаўчых тэкстаў. Тым ня менш, ня толькі пратэстанцкае, але і агульнахрысьціянскае рэлігійнае жыцьцё эпохі стала пазначана знакам канфесійнасьці, якая шчодра (асабліва ва ўсходнееўрапейскіх рэгіёнах) чэрпала з тагачаснае нацыяналістычнае думкі.

Канфесійнасьць у гэтым нацыянальна-афарбаваным сэньсе пазначана наступнымі прыкметамі:

*Айцец доктар **Георгі АВАКУМАЎ** паходзіць з Санкт-Пецярбургу (нар. 06.08.1959 г.). Скончыў Пецярбургскі, тады яшчэ Ленінградзкі дзяржаўны ўніверсітэт, факультэт класічнай філалогіі, пазьней праваслаўную духоўную семінарыю і акадэмію ў Санкт-Пецярбургу. Ступень доктара багаслоўя атрымаў у Мюнхенскім універсітэце (Нямеччына). Тэма яго дысертацыі: "Una fide – diverso ritu. Абрад усходняй Царквы як праблема лацінскага сярэднявечнага багаслоўя. Досьледы пра гензу ўнійнай ідэі".*

*Высьвячаны на сьвятара ў 1992 г. у Львове. З 1995 г. служыў душпастырам для расейскамоўнай каталіцкай парафіі Мюнхенскай архіяпархіі, выкладаў ва Ўкраінскім свабодным універсітэце. Жанаты, мае двух дзяцей.*

*Аўтар некалькіх манаграфіяў, сярод якіх «Мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі і грэка-каталікі ў Расеі», якая атрымала ўзнагароду на Форуме выдаўцоў у Львове (2004 г.).*

*З студзеня 2007 году дэкан гуманітарнага факультэту Украінскага каталіцкага ўніверсітэту, загадчык катэдры класічных, візантыйскіх і сярэднявечных студыяў.*

# Ідэя царкоўнай уніі ў грамадзка-палітычным жыцьці Беларусі XV – пач. XVI ст.

⇨ Пачатак на с. 12-15

Інтарэсы Апостальскага Пасаду і выстаўленыя ім умовы папа выказаў у двух сваіх лістах: біскупа Войцеха Табара (ад 26 красавіка) і вялікаму князю Аляксандру (ад 7 ліпеня). Рым быў асьцярожны ў фармулёўках. У лісьце да віленскага біскупа папа адзначыў: "…Царкоўную супольнасьць не павінны псаваць дагматычныя разыходжаньні. …А таму, ухвалілі мы, …найважней берагчы здаровы і беззаганны статак, чым аслабіць яго бясьпеку, упускаючы ў яго авечак, пазначаных плямамі гарэзіі або іншых адрачэнскіх хваробаў". Падобна, папства было гатова прызнаць часткай каталіцкай супольнасьці Кіеўскую мітраполію, аналіз адданасьці якой пастановам Фларэнцкага сабора павінен быў правесьці біскуп Табар. Галоўнай праблемаю для Рыму было тое, што мітрапаліта Язэпа высьвяціў "гарэтык Якім", пасаджаны на царгарадзкі пасад турэцкім султанам. Ні папа, ні прызначаны папам царгарадзкі патрыярх кардынал Джавані Мікеле не зацьвердзілі Язэпа Балгарынавіча ў сане кіеўскага мітрапаліта.

Хоць папа Аляксандар VI стрымана прывітаў ініцыятыву Язэпа Балгарынавіча, непасрэдна яму ён не адказаў. Рымскі архірэй не імкнуўся мецць справу з кіеўскім мітрапалітам, пакуль той ня зрокся патрыярха ў Царгарадзе і не атрымаў прызнаньня папы або ўніяцкага патрыярха Мікеле. Упаўнаважаным на перамовах было сказана, што Язэпа можа прыняць у Рымскую Царкву віленскі біскуп Войцех Табар. Хоць рымскія дакументы, якія зьявіліся ў адказ на афіцыйны зварот мітрапаліта Язэпа, неаднаразова спасылаюцца на Фларэнцкі сабор, дух уніі на той час ужо, відавочна, згас [5, с. 73-76].

У 1501-1502 гг., у адказ на пасланьне мітрапаліта Язэпа да папы Аляксандра VI, прафесар і рэктар Кракаўскай акадэміі Ян Сакран напісаў востры палемічны памфлет "Elucidarius errorum ritus Ruthenici", у якім нападаў на русінаў, крытыкуючы іх багаслоўскую і маральную сьвядомасьць, царкоўную дысцыпліну і наогул рэлігійны этас. Сакран пісаў, што Руская Царква ня можа быць партнёрам у прымірэньні з Рымскай Царквой, што русіны – самыя дрэнныя з усіх гарэтыкоў – могуць быць толькі суб'ектамі ў пераварочваньні ў адзіна правільную лацінскую веру. Падобныя меркаваньні, выказаныя ў памфлеце Я.Сакрана, былі тыповыя для каталіцкіх царкоўных і сьвецкіх колаў Польшчы і ВКЛ.

Мітрапаліты Ісідар, Рыгор Балгарын, Місаіл Пестручэй, Язэп Балгарынавіч – усе яны фармальна лічылі Фларэнцкую унію дзейснай на тэрыторыі Польшчы і ВКЛ, хоць гэта фактычна не адбівалася на жыцьці духавенства і вернікаў. Да пачатку XVI ст. кіеўскія мітрапаліты, не парываючы з Царгарадам, шукалі спосабы працягу або ўзнаўленьня адносінаў з Рымам, пакуль ня ўпэўніліся, што папства – і найперш вышэйшае каталіцкае духавенства ВКЛ і Польшчы – лічаць Фларэнцкую унію ўжо скасаванай (у 1501 г. папа рымскі Аляксандар VI прызнаў яе нядзейснай у ВКЛ). Пасьля сьмерці ў другой палове 1501 г. Язэпа Балгарынавіча яго пераемнікі, кіеўскія мітрапаліты, да канца XVI ст. не рабілі спробаў узнаўленьня уніі ў ВКЛ.

1. Прыналежнасьць да Царквы зьвязаная з прыналежнасьцю да нацыі ці народу так, што пануе погляд, што чалавек "народжаны" ў нейкай канфесіі.

2. У ацэначным поглядзе на царкоўную супольнасьць/Традыцыю/канфесію заўсёды спачатку паўстае пытаньне пра яе "ролю" ў фармаваньні і падтрыманьні нацыі/народу/цывілізацыі і толькі ў другую чаргу пра яе "праўду".

3. У адносінах да ўласнай царкоўнай супольнасьці праяўляюцца цьвёрдыя (сама-) азначэньні, якія хоць і падобныя да тых, што ўжываліся ў раньнехрысьціянскія часы, але збольшага страцілі сувязь з іхнім першапачатковым сэнсам ды з сутнасных прыкметаў Царквы Хрыстовай сталі "ўласным імем" канкрэтнай канфесіі. Так, слова *"праваслаўны" ("артадокс")* у Расейскім царстве з сярэдзіны 19 ст. больш не ўжываецца ўжо выключна ў сэньсе "чалавек праўвае веры", але таксама, і ў першую чаргу – у канкрэтных сітуацыях, як азначэньне канфесійнай прыналежнасьці "вялікарусаў".

4. "Чужая" канфесія разглядаецца ня толькі як рэлігійны, але таксама як палітычны і нацыянальны "супраціўнік".

Гэтая канфесійнасьць стала магчымай толькі з паўстаньнем і разьвіцьцём нацыяналізму. Словы "праваслаўны" і "каталіцкі" толькі на працягу 20 ст. зьмянілі цалкам сэнс на недвузначныя азначэньні канфесійнай тоеснасьці. Мы мусім гэта ўсьвядоміць перад тым, як пачнем ужываць гэтыя тэрміны ў кантэксьце сучаснага экуменічнага дыялогу. Ва ўсходняй Царкве адбылося гэта перадусім дзякуючы працам расейскай багаслоўскай школы, асабліва багасловаў са Сьвята-Сергіеўскага інстытуту ў Парыжы. Кніга Сяргея Булгакава *"Праваслаўе"*, якая моцна паўплывала на ўвесь Захад, адыграла ў гэтым вызначную ролю. На Захадзе, і канкрэтна ў Нямеччыне, да замацаваньня канфесійнага выкарыстаньня тэрмінаў спрычыніліся некаторыя працы, як напрыклад *"Сутнасьць Каталіцтва"* Рудольфа Сома.

Гэтая эвалюцыя паняцьцяў прывяла да таго, што сёньня мы маем дзьве тоеснасьці, якія выразна адмежаваныя адна ад адной, два, можна сказаць, ізаляваныя, створаныя Сусьветы, якія супрацьстаяць адзін аднаму. Кожная тоеснасьць – як "каталіцкая", так і "праваслаўная" – самадастатковая сістэма, рэч у сабе і для сябе. Абодва бакі перакананыя, што за іхняй тоеснасьцю стаіць тысячагадовая гісторыя цывілізацыі, абодва бакі глядзяць на чужую тоеснасьць з перадузятасьцю. Адна тоеснасьць выключае іншую: калі ты каталік, тады ты не "праваслаўны", калі ты сябе вызнаеш "праваслаўным", тады ты ня маеш адносінаў да каталікоў. Для сярэднестатыстычнага праваслаўнага Каталіцкая Царква – гэта зборны пункт ня толькі "неправаслаўных", але і "анты-праваслаўных". Гэтае разуменьне прыносіць шкоду ня столькі ў тэарэтычна-багаслоўскай сферы, але перадусім у сферы абрадаў ды звычаяў. Сьпецыфічныя формы каталіцкай пабожнасьці як, напрыклад, малітва Ружанца, вызнаюцца несумяшчальнымі з праваслаўнай пабожнасьцю, як таксама арганы ці аркестры ў храме, сьвяты Сэрца Хрыстовага ці Цела Хрыстовага і г.д. "Каталіцкі" азначае "ератычны": гэтак вам можа сёньня сказаць кожны другі праваслаўны ў Расеі. Як вядома, тэрмін "каталіцкі" ў Расеі і ва Ўсходняй Украіне настолькі зьвязаны з палякамі і ўсім польскім, што ў будзённым моўным ужытку кожны каталіцкі храм пазначаецца польскім словам "касьцёл", а кожны каталіцкі сьвятар – польскім словам *"ксёндз"*. *"Каталіцкі" значыць для нас "чужы"*: так гучыць унутранае пасланьне гэтага моўнага ўжытку.

Звычайна сярэднестатыстычны каталік – напрыклад, у нямецкамоўнай прасторы – інфармаваны пра праваслаўе крыху лепш і ставіцца больш талерантна да праваслаўных, чым ягоныя браты з праваслаўнай Царквы ў адносінах да каталіцтва. Як вядома, у Каталіцкай Царкве ёсьць годная ўвагі колькасьць прыхільнікаў, якія з захапленьнем глядзяць на праваслаўе ці тое, што яны лічаць "праваслаўным", у прыватнасьці на маляваньне іконаў ды на царкоўны сьпеў. Гэта пазітыўны знак таго, што сёньня каталіцкі сьвет больш ахвотна адкрываецца на вызнаньне чужой тоеснасьці, параўнальна з праваслаўным сьветам. Але і тут сітуацыя ў штодзённым жыцьці не зьяўляецца такой беспраблемнай, як гэта адразу здаецца. Экуменічныя, талерантныя погляды адносна іншых канфесіяў **вызнаюцца** ў каталіцкім сучасным сьвеце як годныя прызнаньня і пахвалы. Але за гэтым вызнаньнем на словах далёка не заўсёды адпаведныя дзеі ў штодзённым жыцьці. Хоць каталік у нямецкамоўнай прасторы **наўрад ці** будзе казаць, што праваслаўныя – гэта гарэтыкі, аднак даволі выразная стрыманасьць і дыстанцыянаваньне ад іх адчуваецца ў звычайных сітуацыях (гэтая стры-

Працяг на с.18 ⇨



*• Царква Нараджэньня Багародзіцы (1524 г.) у в. Мураванка Шчучынскага р-ну Гарадзенскай вобл.*

Увасабленьнем Фларэнцкай уніі ў культурнай сферы ВКЛ могуць лічыцца пабудаваныя на мяжы XV – XVI стст. храмы-крэпасьці ў Сынкавічах, Мураванцы і Супрасьлі, якімі Беларусь увайшла ў гісторыю еўрапейскай архітэктуры. Праваслаўныя культавыя пабудовы візантыйскага тыпу тут упершыню ўвабралі гатычныя рысы, уласьцівыя заходнееўрапейскаму дойлідству.

Прыхільнікам і прапагандыстам ідэй фларэнцкага экуменізму – "церковной единоты" – быў беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар Францыск Скарына. Ён падкрэсьліваў бессэнсоўнасьць падзелу хрысьціянства і надуманасьць спрэчак аб першынстве паміж найвышэйшымі ярархамі Заходняй і Ўсходняй Царквы. У сваёй Прадмове да "Першага Пасланьня Паўла да Карынцянаў" ён пісаў пра велізарную грамадзкую карысьць ад усехрысьціянскага адзінства [8; 11, с. 91].

У XVI ст. у праваслаўным сьвеце суціхлі спрэчкі, выкліканыя Фларэнцкай уніяй, сьцерліся супярэчнасьці паміж праўнійнай і антыўнійнай праваслаўнымі партыямі, якія перад самым прыходам туркаў у Візантыю так зацята змагаліся паміж сабой. Фларэнцкая ўнійная традыцыя была забытая або напаўзабытая да апошняй трацiны XVI ст., калі на беларускай глебе сталі прарастаць новыя праекты царкоўнай уніі. Яе ізноў успомнілі і ў Рыме, і ў Вільні. Фларэнцкая мадэль аб'яднаньня хрысьціянаў, адаптаваная да новых гістарычных і геапалітычных умоваў, была пакладзена ў аснову Берасьцейскай царкоўнай уніі 1596 г., якая выявілася найбольш трывалай з усіх спробаў аб'яднаньня ўсходняга і заходняга хрысьціянства і стала ўкладам Беларусі ў сусьветную цывілізацыю. Эстафета пошуку шляхоў да еднасьці ад італьянскай Фларэнцыі пераходзіла да нашага Берасьця.

*ЛІТАРАТУРА:*

*1. Абламейка С. Хай усе будуць адно // Беларуская мінуўшчына. – 1994. – № 4. С. 33-36.*

*2. Бажэнаў Ю. Герасім // Рэлігія і царква на Беларусі: энцыклапедычны даведнік. – Мінск: БелЭн, 2001. – С. 73.*

*3. Беларуская літаратура: Падручнік для 10 кл. / В.Я.Ляшук, А.А.Майсейчык, К.М.Мароз і інш. Пад рэд. В.Я.Ляшук. – Мінск: Рэдакцыя часопіса "Крыніца", 1997. – 608 с.*

*4. Белы А.В. Фларэнтыйская унія 1439 // Рэлігія і царква на Беларусі: энцыклапедычны даведнік. – Мінск: БелЭн, 2001. – С. 339-340.*

*5. Криза і реформа: Київська митрополія, Царгородский патріархат і генеза Берестейської унії: Пер. з англ. – Львів: Інститут історії Церкви Львівської богословської академії, 2000. – 429 с.*

*6. Карташев А.В. Очерки по истории русской церкви. – Репринт. Париж, 1959. – Москва: Наука, 1991. – Т. 1. – 704 с.*

*7. Лужницький Г. Українська церква між Сходом і Заходом. – Филаделфія, 1954.*

*8. Мальдзіс 1990 – Мальдзіс А. Францыск Скарына як прыхільнік «церковной единоты» // Полымя. – 1990. – № 8. – С. 203-208.*

*9. Мартос А. Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. – Репринт. Буэнос-Айрес, 1966. – Минск: Белорусский Экзархат Русской Православной Церкви, 1990. – 299 с.*

*10. Падокшын С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура (Філасофска-гістарычны аналіз). – Мінск: Беларуская навука, 1998. – 112 с.*

*11. Саверчанка І. Aurea mediocritas. Кніжнапісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барока. – Мінск: Тэхналогія, 1998. – 319 с.*

*12. Halecki O. Od unii Florenckiej do unii Brzeskiej / Przekł. A.Niclewicz. – Lublin – Rzym: Instytut Europy Środkowo-Wschodniej; Fundacja Jana Pawła II, 1997. – T. I. – 270 s.*

# Тоеснасьць і Пасланьне грэка-каталіцкай Царквы

⇨ Пачатак на с. 16-17

манасьць нярэдка праяўляецца падчас прыёму на працу замежнікаў). У некаторых выпадках ступень гэтай холаднасьці ўзрастае ажно да раздражнёнасьці з прычыны некаторых звычаяў праваслаўных. Апошняе вельмі лёгка ўбачыць на прыкладзе праблематыкі, зьвязанай з цэлібатам. Жанатае духавенства звычайна ўспрымаецца як "некаталіцкае", а ў некаторых каталіцкіх колах яшчэ й як "антыкаталіцкае". У побыце гэтыя ўяўленьні пра тоеснасьць **з абодвух бакоў** упарта трымаюцца сваіх перадузятасьцяў, сваіх незадаволенасьцяў, калі паўстае неабходнасьць прыняць чужую тоеснасьць. Мусім гэта сабе ясна ўсьвядоміць. Коратка падсумоўваючы: "быць каталіком" і "быць праваслаўным", належаць (паводле гэтага ўяўленьня) да двух культурных прастораў, што супернічаюць паміж сабой – гэта той факт, які сёньня, у час вяртаньня цывілізацыйна-матываваных канфліктаў, прыносіць асаблівыя складанасьці для экуменічнага зьбліжэньня ды паразуменьня Цэркваў.

Але гэтая карціна можа ўсё ж сутнасна зьмяніцца ў выпадку, калі гэты дуалізм спрадвечнай формулы "Захад – Усход", "каталік – праваслаўны" ператворыцца на трыяду **"Захад-Усход-Памежжа"**. Памежжа, "лінія падзелу" паміж культурнымі прасторамі ёсьць цалкам асаблівай зьявай. Дыялектыка мяжы цывілізацыяў, як таксама ўвогуле любой "мяжы", мае ўласьцівасьць, паводле якой мяжа ці лінія падзелу ня толькі аддзяляе розныя культурныя колы адно ад аднаго, але і адначасова **яднае** іх. Таму знаходжаньне на лініі падзелу ёсьць небясьпекай, але адначасова і шанцам. Рух двух культурных прастораў насустрач адна адной, перамена іхняга "супраць-стаяньня" ў "разам-стаяньне" магчымыя толькі з ператварэньнем "месца падзелу" ў **"месца дыялогу"**. Галоўная роля ў гэтым заданьні належыць грамадзкім структурам, якія знаходзяцца на гэтай лініі падзелу.

Для нашае тэмы гэта значыць, што да формулы "каталіцкі – праваслаўны" мы мусім дадаць яшчэ трэці элемент. Ня мусіць быць сумніваў, што гэты элемент ня можа быць пазначаны інакш, як толькі **"грэка-каталіцкі"** ці **"ўніяцкі"**. Менавіта тыя ўсходнія Цэрквы, што аб'ядналыя з Рымам, знаходзяцца на лініі падзелу паміж станам "быць каталіком" і "быць праваслаўным". Што зьяўляецца сьпецыфікай сітуацыі хрысьціянаў грэка-каталікоў на лініі падзелу паміж дзьвюма культурнымі прасторамі? Што вызначае гэтую "ўніяцкую" тоеснасьць? Яна характарызуецца перадусім тым, што гэтая тоеснасьць ёсьць у вялікай меры **"падвойная тоеснасьць"**. Менавіта ў гэтым знаходзіцца яе найвялікшая цяжкасьць, але таксама і яе вялікі шанец. Гэтая падвойная тоеснасьць мае як пазітыўныя, так і негатыўныя вынікі.

Хрысьціяне грэка-каталікі, ці ўніяты, хочуць быць "каталікамі" ў сэньсе прыналежнасьці да Паўсюднай Царквы ў еднасьці з папам; яны і **ёсьць** сапраўды каталікамі. Але штодзённае, звыклае ўспрыняцьцё большасьці каталікоў **не прымае** гэтую іхнюю якасьць. *"Якія з вас каталіцкія сьвятары, калі вы жанатыя?"* – такая ці падобная рэакцыя, з якімі і я асабіста таксама не аднойчы сустракаўся, паказваюць тыповы пункт гледжаньня шматлікіх каталікоў у Нямеччыне на ўніятаў. Мой тыповы адказ на гэта такі: *"Мы, уніяты, маем нашае ўласнае кананічнае права, якое кадыфікавана ў Codex canonum ecclesiarum orientalium"*. Але таксама і гэта выглядае для шчырага каталіка, які давярае папе, падазрона. Неаднаразова пасьля доўгае падрабязнае вытлумачальнае размовы з якім-небудзь нямецкім каталіком пра сьпецыфіку каталіцкіх усходніх Цэркваў напрыканцы я чуў, на вялікі жаль, канчатковы вырак майго субяседніка: *"Ага, такім чынам, вы ўсё ж праваслаўныя!"*

Хрысьціяне грэка-каталікі хочуць быць **"праваслаўнымі"**, г. зн. прыналежнымі да ўсходняй Царквы. І яны сапраўды **ёсьць** "праваслаўнымі". Але штодзённае, звыклае ўспрыняцьцё большасьці праваслаўных не прымае гэтую іхнюю якасьць. *"Якія з вас праваслаўныя, калі вы ў еднасьці з папам?"* – прыблізна так гучыць тыповае пытаньне да хрысьціяніна грэка-каталіка ў праваслаўным сьвеце. Як часта ў практыцы майго душпастырства расейцаў у Германіі пасьля доўгае вытлумачальнае размовы з якім-небудзь нядаўна прыехаўшым з Расеі праваслаўным пра ягоную канфесію (пасьля размовы, накіраванай не на пераманьваньне гэтага праваслаўнага ў іншую канфесію, але на талерантнае стаўленьне да нас, грэка-каталікоў), я, на вялікі жаль, пераконваўся, што нават простае ўзгадваньне папы ці Каталіцкай Царквы ў пазітыўным сэньсе адразу будавала паміж намі непераадольны бар'ер, так што я адразу рабіўся для яго чужым.

Хрысьціяне грэка-каталікі атакаваныя, такім чынам, з двух бакоў. Ці гэта прычына для адчаю? Я перакананы: Не! Наадварот, гэта магчымасьць выкарыстоўваць велізарны пазітыўны патэнцыял гэтага складанага і далікатнага становішча. Такім чынам, чаму ўніяты маюць такія праблемы і рознагалосьсе з так званымі "чыстымі", "чыста-расавымі" каталікамі і праваслаўнымі? Адказ на гэтае пытаньне можа даць нам больш глыбокі погляд на сапраўдны сэнс і мэты экуменізму, на Пасланьне грэка-каталіцкай Царквы для сучаснага сьвету. Гэты адказ гучыць так: нават адно толькі існаваньне ўніятаў ламае сфармаваную сістэму канфесіяў, яны не пасуюць да гэтае карціны сьвету, да якой мы, хрысьціяне, ужо так прызвычаіліся за гэты час. Чаму рыма-каталік мае такія сумненьні? Чаму праваслаўны такі раздражнёны? Бо абодва інтуітыўна адчуваюць, што такая дзіўнаватая зьява як "грэка-каталік", "візантыйскі каталік" ці "ўніят", руйнуе іхнія ўласныя ўяўленьні пра тоеснасьць, у якіх ім было так утульна. На працягу стагоддзяў каталікі і праваслаўныя будавалі "бярлінскі мур" між сабою і цяпер прыходзіць нехта, хто ім абодвум хоча нагадаць, што "каталіцкі" і "праваслаўны" – зусім ня ёсьць супрацьлегласьцямі, але азначаюць, па сутнасьці, **адное і тое ж**; што "каталіцкі" і "праваслаўны" – не выключаюць адно аднаго, але хутчэй дапаўняюць. *"Я – каталік як і ты, але я таксама іншы"; "я – праваслаўны як і ты, але я таксама іншы",* так гучыць Пасланьне хрысьціяніна грэка-каталіка да сваіх братоў і сёстраў у заходніх і ўсходніх культурных прасторах. Гэты дзіўны чалавек – "праваслаўны каталік" ці "каталіцкі праваслаўны", альбо як сабе хочаце назавіце – ёсьць тут, каб у гэты ўсталяваны і часта па-фарысейску афарбаваны сьвет самадастатковасьці хрысьціянскіх канфесіяў і культурных прастораў прынесьці няпэўнасьць і пагрозу. Гэтыя няпэўнасьць і пагроза выконваюць таксама пазітыўную ды плённую функцыю: яны правакуюць каталікоў, таксама як і праваслаўных, каб добра прадумалі сапраўдны сэнс, сапраўднае значэньне, сапраўднае заданьне іх уласнай канфесійнасьці. Яны дэманструюць каталіку, што "быць католікам" – не раўназначна "быць лацiньнікам"; яны паказваюць праваслаўнаму, што "быць праваслаўным" – не выключае прыналежнасьці да каталіцкай Паўсюднай Царквы. Магчыма, дзякуючы гэтаму, абодва змогуць па-за сваім "быць католікам" ці "быць праваслаўным" адкрыць агульнае – "быць хрысьціянінам"?

> ***"Нашае заданьне мусіць быць большым: шукаць новыя шляхі і магчымасьці ў прасторы ўсходняй царкоўнай скарбніцы, маючы ў дапамогу нашае веданьне Захаду і наш вопыт жыцьця разам з заходнімі братамі ў Хрысьце."***

Гэта ўсё не зьяўляецца толькі тэарэтычным экуменічным вытлумачэньнем, якое застаецца на паверхні, як большасьць з таго, што ў апошнія дзесяцігоддзі ўжывалася з боку заходніх экуменістаў. Гэта ёсьць вытлумачэньне праз свайго роду "культурны шок". Такая "шокавая тэрапія" паказвае сябе ўсё ж сапраўды як больш эфектыўную за шматлікія тэалагічныя размовы і афіцыйныя сустрэчы царкоўных дзеячоў. Але быць прычынай такога вытлумачэньня, гэтага выключна цяжкага за-

даньня – гэта зусім **ня ёсьць** гатовая для нас дадзенасьць. Гэта **заданьне** для нас, хрысьціянаў грэка-каталікоў. Выключная цяжкасьць гэтага заданьня, між іншым, у тым, што мусім прапанаваць прымальную і **пераканаўчую** альтэрнатыву для таго, каб "быць каталікам" ці "быць праваслаўным" (у звыклым сэньсе) як для каталіка, так і праваслаўнага.

Грэка-каталіцкая Царква не павінна забываць, што з яе існаваньнем зьвязаныя ня толькі негатыўныя пачуцьці ці рэакцыі, але і пазітыўныя чаканьні з двух бакоў гэтага памежжа культурных прастораў. Хрысьціяне-каталікі ў Нямеччыне праяўляюць сёньня ўсё больш цікавасьці да ўсходняй духоўнасьці, літургіі і мастацтва. Шмат з іх трактуюць каталіцкую Царкву візантыйскага абраду (гэта я ведаю з майго ўласнага досьведу) як самы просты спосаб заставацца каталікам і адначасова быць далучаным да ўсходняй царкоўнай культуры. Заданьне грэка-каталіцкай Царквы – зрабіць магчымым для братоў і сёстраў па веры доступ да ўсходняе Царквы. Але выканаць гэта яна можа толькі тады, калі сама будзе добра ведаць і дбайна захоўваць свае ўласныя традыцыі і скарбы, якімі валодае.

Таксама і з праваслаўнага боку чуем ня толькі негатыўнае пра ўніятаў. Гэта я магу сьцьвярджаць таксама з майго ўласнага досьведу (на гэты раз ужо з іншага боку гэтай мяжы цывілізацыяў). Зацікаўленыя людзі без перадузятасьцяў сярод праваслаўных ва Ўкраіне і таксама ў Расеі (а іх ёсьць даволі шмат) жадаюць бачыць ва ўніяцкай Царкве лепшую альтэрнатыву той зацьвярдзеласьці, закрытасьці, фундаменталізму, што ёсьць у многіх праваслаўных. Тут я хацеў бы дыстанцыявацца ад эстэтызму, які часта можна сустрэць на Захадзе, эстэтызму, які ад грэка-каталіцкай Царквы чакае выключна сьляпога і скрупулёзнага насьледаваньня ўсіх літургічных і іншых звычаяў адпаведнай праваслаўнай Царквы-двайніка і са снабізмам гэтага патрабуе. Я перакананы: уніяцкія Цэрквы маюць права на ўласнае разьвіцьцё. Для гэтага разьвіцьця трэба выконваць, аднак, дзьве абавязковыя перадумовы:

1. Кожная зьмена ці паляпшэньне мусіць рабіцца з вялікай асьцярожнасьцю. І хоць роля супольнасьці ды прыватная ініцыятыва сьвятара ў гэтай справе вельмі важныя, аднак усе літургічныя і дысцыплінарныя карэктывы мусяць адбывацца толькі ў выніку саборных рашэньняў адпаведнай мясцовай Царквы. Да гэтага нам мусіць быць вядомая і практыка адпаведнай праваслаўнай Царквы, нават пры магчымым разнагалосьсі.

2. Любое ўласнае разьвіцьцё мусіць быць укаранёным **ва ўсходнецаркоўнай традыцыі**; нельга асобныя звычаі лацінскай Царквы – нават тыя, што выглядаюць добрымі і карыснымі – прыўносіць ва ўніяцкі кантэкст (с. 49 CCEO: curent fidelem custodiam et accuratam observantiam proprii ritus nec in eo mutationes admittant nisi **ratione eius organici progressus**).

Праблему ўласнага разьвіцьця ўніятаў можам добра патлумачыць з дапамогаю аднаго прыкладу з царкоўнага жыцьця маёй Айчыны, Расеі. У апошнія дзесяцігоддзі ў Расеі бурліць дыскусія адносна ўвядзеньня сучаснае мовы ў літургіі. Пры гэтым рух некаторых праваслаўных сьвятароў і вернікаў, які лічыцца "прагрэсіўным", быў вельмі рашуча разьбіты царкоўнымі лідэрамі Маскоўскага патрыярхату. На парафіяльнага сьвятара, які толькі паспрабаваў крыху русіфікаваць і зрабіць больш зразумелай літургічную мову для сучаснага расейца, фундаменталісцкія колы адразу павесілі ярлык гарэтыка. Таксама разам з гэтым і шмат іншых ініцыятываў праваслаўных сьвятароў, скіраваных на паляпшэньне жыцьця супольнасьці (варта адзначыць – закаранёных ва ўсходнецаркоўнай практыцы!), былі падаўленыя. На маю думку, істотная пастырская памылка (калі не сказаць: глупства) – з прычыны гэткіх рашэньняў Маскоўскага патрыярхату, якія скіраваныя супраць "мадэрністаў", забараняць падобнае разьвіцьцё ў грэка-каталіцкай Царкве ва ўсходнеславянскім рэгіёне ў кірунку "асучасьненьня мовы", "актывізацыі жыцьця супольнасьці". Старая формула Пія X "Nec plus nec minus nec aliter"* (як у Маскоўскім Патрыярхаце), якая была аднойчы прадпісаная рускім уніятам, на маю думку, у сучасным сьвеце больш не функцыянуе. Час прыйшоў напоўніць яе новым сэнсам.

Толькі гэтак можам мы, хрысьціяне грэка-каталікі, выйсьці з той правінцыйнасьці, якой часта нас дакараюць. Не дастаткова толькі ўвесь час даказваць нашую "нявіннасьць" перад усім сьветам, калі ўвесь час мы азіраемся на "добрых", "чыстых", "пародных" праваслаўных і паўтараем тое, што яны робяць. З іншага боку, існавалі ў гісторыі грэка-каталіцкай Царквы і існуюць яшчэ тэндэнцыі да сьляпога насьледаваньня рыма-каталіцкай Царквы. Абодва шляхі памылковыя. Нашае заданьне мусіць быць большым: шукаць новыя шляхі і магчымасьці ў прасторы ўсходняй царкоўнай скарбніцы, маючы ў дапамогу нашае веданьне Захаду і наш вопыт жыцьця разам з заходнімі братамі ў Хрысьце. Мы ня мусім баяцца паказаць нашым праваслаўным братам і сёстрам новыя перспэктывы і магчымасьці ў нашай супольнай усходнехрысьціянскай традыцыі. Трэба, аднак, памятаць, што ўсе ініцыятывы ўніятаў будуць зусім бясплённымі тады, калі яны вырастаюць не з усходняга культурнага багацьця, але адно толькі хочуць пераймаць лацінскія звычаі.

Да гэтага я хачу падаць тры пункты, якія маюць значэньне для выкананьня гэтага роду заданьняў.

1. Хрысьціянам грэка-каталікам неадкладна неабходна займець як мага больш сяброў сярод праваслаўных. Гэты выклік трэба разумець не як дыпламатычна-палітычнае заданьне, але як запавет, які вырастае з хрысьціянскае самасьвядомасьці. Сапраўдныя сябры і прыхільнікі сярод праваслаўных могуць зьявіцца ў нас толькі тады, калі мы адстойваем перад папам, перад лацінскай Царквой і перад усёй заходняй супольнасьцю справы Ўсходняй Царквы як аднаго цэлага (а ня толькі нашыя ўласныя, уніяцкія справы). Так напрыклад, як гэта рабіў вялікі ўкраінскі мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі ў адносінах да праваслаўных у Польшчы ў 30-я гады 20 ст., альбо так, як гэта рабіў мяльхіцкі патрыярх Максім IV (Maximos IV Saigh) на II Ватыканскім саборы. Удзячнасьці, а таксама захопленай рэакцыі шматлікіх праваслаўных, як мы ўсе добра ведаем, доўга чакаць не прыйшлося.

2. Хрысьціянам грэка-каталікам неадкладна неабходна займець як мага больш сапраўдных сяброў і прыхільнікаў сярод рыма-каталікоў, і асабліва ў заходнім грамадстве. Шлях да гэтага ідзе праз сталую, цяжкую асьветніцкую (вытлумачальную) працу на Захадзе.

3. І ў рэшце рэшт, неадкладна патрэбна наладжваць сталыя сувязі і сумесныя нарады паміж сабой. Уніяты розных абрадаў і нацыянальнасьцяў мусяць быць гатовымі выпрацоўваць сумесную пазіцыю па найважнейшых праблемах іхняга існаваньня, і таксама, калі гэта неабходна, яднацца ў агульны "Фронт" перад грамадзтвам. Гэта таксама азначае, што мусім быць гатовымі выйсьці па-за свае нацыянальныя межы.

Вернемся напрыканцы яшчэ раз да пытаньня, што ставілася на пачатку. Тоеснасьць і Пасланьне грэка-каталіцкай Царквы праяўляецца ў вельмі цікавым і нават правакацыйным парадоксе: гэта канфесія, якая разбурае ўсталяваны канфесійны сьвет. Складанасьці, балючасьці, супярэчнасьці праблематыкі ўніяцкіх Цэркваў папярэднічае складанасьць, балючасьць і супярэчнасьць, якія вынікаюць пры кожнай (і сапраўды: у кожнай!) праўдзівай і шчырай спробе знайсьці вырашэньне канфлікту паміж каталіцкімі і праваслаўнымі Цэрквамі. Таму будзе вялікай памылкай верыць, што з вырашэньнем, выдаленьнем "уніяцкага пытаньня" (як шмат хто мяркуе на Захадзе) абедзьве канфесіі, узятыя ў іхняй "чысьціні", без перашкодаў знойдуць новыя шляхі да еднасьці. Усё ж такі шлях да таго, каб "быць разам" замест каб "быць супернікамі" ляжыць **праз** праблематыку грэка-каталіцкіх хрысьціянаў і **непазьбежна** праз яе, таксама як і геаграфічны шлях з Варшавы на Кіеў не абміне заходнеўкраінскія тэрыторыі. Мяжу паміж культурнымі прасторамі нельга абмінуць паводле нашага жаданьня, калі толькі мы сапраўды пачынаем гэты рух насустрач адзін аднаму. Напрыканцы я хацеў бы выказаць маё спадзяваньне, што Ўкраінская Грэка-Каталіцкая Царква можа перамяніць гэтае небясьпечнае месца падзелу між культурнымі прасторамі ў месца дыялогу і паразуменьня. Для гэтага перш за ўсё патрэбна шмат мужнасьці, каб годна абараняць інтарэсы ўсходніх Цэркваў у заходнім сьвеце і інтарэсы каталіцкай Царквы ў сьвеце праваслаўным.

*Даклад прачытаны на Міжнародным сімпозіюме "Місія ўсходніх каталіцкіх Цэркваў у жыцьці Паўсюднай Царквы ды ў сучасным сьвеце" ў Гамінгу (Аўстрыя), 4-6.03.2009.*

*Пераклад з нямецкай*
*а. Алеся АЎДЗЕЮКА*

* *Нічога болей, нічога меней, нічога інакш.*

# Народнаму паэту Рыгору Барадуліну – 75!

***24 лютага 2010 году ў народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна 75-гадовы юбілей.***

“Паэзія Барадуліна – чыстай красы Боская паэзія беларусаў, крыніца нацыянальнага натхненьня, складнік яе спрадвечнага духоўнага набытку”, – пісаў Васіль Быкаў пра свайго самага блізкага сябра.

Шмат гадоў гэты выдатны паэт, цудоўны чалавек і хрысьціянін (ён – вернік Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы) шчыра служыць сваім мудрым і ўзьнёслым словам сваім суайчыньнікам і братам па веры. На жаль, у апошні час здароўе яго аслабла і ў гэты свой юбілей паэт сур’ёзна хварэе...

Сёньня Рыгор Барадулін асабліва патрабуе нашае малітоўнае падтрымкі, таму ў гэтыя дні асабліва просім у нашага Госпада за здароўе Дзядзькі Рыгора.

Сардэчна віншуем нашага паэта Дзядзьку Рыгора з юбілеем! Няхай Міласэрны Бог заўсёды будзе з ім, ацаляе ўсе яго болі і немачы ды натхняе яго на творчасьць.

З нагоды 75-гадовага юбілею Рыгора Барадуліна прапануем падборку яго вершаў.

### Чакаюць...

І нашыя пражытыя гады,
Удзячныя сваім надзейным сховам,
Чакаюць нас –
Калі ў абліччы новым
Мы вернемся, забытыя, сюды...

### І трывогай, і расстаньнем...

Сакавіты сакавіцкі сьнег
Пахне і адлігай, і вясною.
Ці ня гэткі
Сьветла сьніўся Ною,
Як да Арарата плыў каўчэг.

Самавіты сакавіцкі сьнег
Пахне і трывогай, і расстаньнем,
Як і той,
Што можа стаць астатнім,
Мой,
Завяршыўшы кругабег.

Акавіты сакавіцкі сьнег
Пахне проламкамі і вірамі,
Ператомленымі сівярамі,
Што шукаюць для зімы начлег.



Фота Дж. КУНСТАДТЭРА.

### Там...

Там,
Дзе нябыту ўсё знаёма,
За першароднаю ракой
Прытулак знойдзе неспакой
Як дома, будзе наша стома

Там,
Дзе, напэўна, небасхілу
Няпроста выпрастаць сьпіну,
Прымроіць даўніна вясну,
Што крыльлям пазычала сілу.

Там,
Дзе сустрэнемся аднойчы
І непрыязьнікі й сябры,
І ўвойдзем на глухім двары
Ў раку адну і тую ж двойчы.

Сябе самога кожны сам
Успомніць і спазнае
Там...

### Ёсьць!

Чалавеча!
Тваё чало – веча
Думак,
Спадзеўных і сумных.
Тваё жыцьцё –
Памкненьне,
Запыненае на імгненьне.
Твой век забыўлівы,
Як і тваё найменьне.
Сам ты – цень
Ад пылінкі зьнікненьня.
Але
У сусьветнай імгле
У самога сябе
Нехаджалы госьць,
Ты ёсьць!

### Каб ня зябла...

Кожны крок на зямлі выпадковы.
Мройным зоркам
Зайздросьціць жарства.
Ветрам нашы разьвеюцца словы.
З праху ціхая ўзыйдзе трава.

Наадгон з вечарамі старэем.
Маладзее цярпліва труна.
Ці жывем,
Ці зямлю гэту грэем,
Каб ня зябла ў Сусьвеце яна?..

### Чакаем

У кожнага мора свая глыбіня.
У кожнага сэрца свая таямніца.
Крыло і хмурынка —
Нябёсам радня.
Сьпякоце крыніца сьцюдзёная сьніцца.

І мора калісьці гарою было.
І гора сьмяялася радасным сьмехам.
Сьпяшалася цемру пабачыць сьвятло.
І ціша ажно заікалася рэхам.

На беразе мора чакаем усе
Надзейнай пагоды,
Душэўнай лагоды,
Калі з нашым шчасьцем
Чаўны прынясе,
Што лёс пасылае нам
З добрай нагоды...

### Прашу...

Душа зьбіраецца дадому,
Наважыўшыся ўзяць з сабой
Зямную згорбленую стому,
І зорны сьмех,
І чорны боль.

Ідуць упрочкі
Дочкі мроі,
І сны сыны шукаць сябе.
За далягляднаю гарою
Мурог трывогі скон скубе.

Што ашукаць спрабую працу,
Я лёсу смутнаму хлушу.
Яшчэ са мной патаргавацца
Прашу душу,
Прашу душу...

### Жыві!

У вечнасьці сьлед на ілбе
Ад пацалунка бяды.
З сабою нават сябе
Не забярэш туды.

Час –
Човен на быстрыні.
Намеры –
Салодкі дым.
Жыві ў сягоньняшнім дні,
Каб заўтрашні
Стаў тваім.

*Заснаваная ў 1995 г.*
**Царква**
***грэка-каталіцкая газета***
***№ 1 (64), 2010***
15 сакавіка

**Адрас рэдакцыі:**
вул. Дворнікава, 63
224014, Берасьце (Брэст)
Беларусь
Тэл./факс (0162) 24-74-82
e-mail: bgkc_carkva@tut.by
***сайт: carkva-gazeta.org***

**Заснавальнік і выдавец:** грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў г. Берасьці
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 28.10.2008 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар КАНДРАЦЬЕЎ
**Царкоўны асістэнт:** а. Андрэй АБЛАМЕЙКА, STM
**Адказны рэдактар:** а. Андрэй КРОТ, STL
**Выпускны рэдактар:** Ігар БАРАНОЎСКІ
**Падпісана ў друк:** 9 лютага 2009 году, 10-45.
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 02330/0131540 ад 30.04.04), вул. Мініна, 23-106, 220014, Менск. **Замова** № 140
**Аб’ём** 2,5 друк. арк. **Наклад** 2000 асобнікаў.

***НАШ РАХУНАК:***
*№ 3015220710013*
*у ЦБУ ЗАТ “Абсалют-банк” у г.Берасьці*
*МФО 153001898,*
*УНП 200558013*